PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 32 (2100) Год XLI Беласток 11 жніўня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Алег Латышонак

## „Памірае наша нацыя"

Праваслаўны прыход у Малешах ляжыць на самай ускраіне беларускага этнічнага арэалу; як у нас гавораць — „на шляхце". Належаць яму вёскі: Малешы, Шпакі, Буйнова і філіяльная царква ў Бранску з вёскамі Свірыды, Зані. У Марыявізне засталіся чатыры праваслаўныя вернікі, у Кярснуўку — двое. Звяліся ўжо праваслаўныя ў Сцёнах, Сеськах і Хаеве.

Прыхаджан усяго 335. Летась было тут дзевяць пахаванняў і толькі адно хрышчэнне. Сёлета ўжо восем пахаванняў, але і два хрышчэнні. Бываюць жа гады, што не хрысцяць у малешаўскай царкве нікога.

Айцец Васіль Негірэвіч, які тут ужо 34 гады настаяцелем, успамінае, што напачатку было тут каля 600 прыхаджан. А трэба помніць, што з тутэйшых вёсак многа людзей выехала пасля вайны ў Савецкі Саюз. Уцякалі ад тэрору, які навёў тут „Буры". З самых Малешаў выехала каля 40 чалавек. Амаль уся моладзь выехала адсюль у гарады, падалей ад тутэйшага жаху. Вядома, што ў Зані ніякая дзеўка замуж не пойдзе. Праз дзесяць гадоў у Занях не будзе ўжо праваслаўных. Засталіся самыя старэчы і пару старых кавалераў, што п'юць насмерць ад безнадзейнасці.

Хутчэй ці пазней тое самае чакае ўсе тутэйшыя вёскі. Зямлю сяляне здалі за рэнту або арандуюць суседзям-католікам.

Тутэйшыя католікі больш прывязаны да зямлі і маюць больш дзяцей. Сёння яшчэ ў Малешах палова праваслаўных, але гаспадароў сярод іх у працаздольным узросце ўсяго пяць. Дзяцей у праваслаўных сем'ях адно-двое. Тым часам у каталіцкіх звычайна трое. Адзін гаспадар мае нават шасцёра. Як правіла, у каталіцкіх сем'ях адно дзіця застаецца на бацькаўшчыне. У праваслаўных пакідаюць бацькоўскі кут усе.

Няма тут ужо колішняй нянавісці, калі сусед забіваў суседа толькі за тое, што той — беларус. Усё-такі айцец Негірэвіч са смуткам наглядае, як з году ў год памірае яго парафія.

Малешаўскі прыход гэта прыклад крайні, як сваім геаграфічным палажэннем, так і трагічным лёсам. Тым не менш, не надта суцяшальная сітуацыя і далей на ўсход. Выезд моладзі ў гарады і хуткае старэнне вёскі наглядаем ва ўсіх беларускіх гмінах.

Перш, чым завесці размову аб дэмаграфічнай сітуацыі гэтых гмін на фоне цэлага ваяводства, трэба прыгадаць адно:

**У мінулым годзе першы раз пасля вайны ў Польшчы памерла больш людзей, чымся нарадзілася.**

Вядома, даныя для цэлай краіны не перадаюць сітуацыі ў паасобнай мясцовасці.

На Беласточчыне колькасць нараджэнняў перавысіла колькасць сканнняў ва ўсіх гарадах і мястэчках, за выключэннем Драгічына, Кнышына і Суража.

Так сама было ў гмінах Юхнавец-Ніжні, Ясяноўка, Васількаў і Супрасль. Безумоўна, у выніку пашырэння на тэрыторыю гэтых гмін прыгарадаў Беластока.

Такім чынам ў тыпова вясковай мясцовасці нарадзілася больш людзей, чымся памерла толькі ў чатырох гмінах: Дзядковічы, Бранск, Пасвентна, Монькі. У гміне Драгічын нарадзілася столькі ж людзей, як і памерла. Варта заўважыць, што ў гміне Пасвентна колькасць нараджэнняў на тысячу жыхароў — 18 — самая вялікая на ўсёй Беласточчыне, уключна з гарадамі.

У рэшце вясковых гмін памерла больш людзей, чым нарадзілася. Тым не менш, у некаторых гмінах наглядаем толькі пачаткі працэсу адмірання насельніцтва, падчас як у другіх працэс гэты ідзе хуткімі тэмпамі.

У гміне Орля памерла больш за тры разы людзей, чымся нарадзілася (адпаведна 73 і 22). Больш за два з паловай раза ў гмінах Чыжы (64 — 24), Белавежа (66 — 25) і Дубічы-Царкоўныя (44 — 17).

Найбольш трагічна выглядае статыстыка для гміны Орля. Праз шэсць гадоў назбіраецца тут дзяцей толькі на адзін невялікі клас. А школа ў Орлі новая, аграмадная. І хто будзе вучыцца ў акуратнай школе ў Малінніках?

У гміне Орля найбольш састарэлае насельніцтва на цэлай Беласточчыне. Жыхар гэтай гміны мае ў сярэднім 47 гадоў. Дарэчы, усе першыя месцы паводле састарэласці займаюць беларускія гміны. За Орляй ідзе гміна Бельск — таксама 47 гадоў. Далей гміны: Чыжы, Кляшчэлі і Дубічы-Царкоўныя — па 46 гадоў. За імі Мілейчычы і Нарва — 44 гады і Гайнаўка — 42.

Не інакш пэўне ж было б і з паміраннем, і з састарэласцю, калі б з гмінаў Міхалова, Гарадок ці Нараўка выдзяліць гарадскія пасёлкі.

*(працяг на стар. 4)*



Ева Сцепанюк

## За дурную бабу!

— Ой, што тады было!.. — успамінае солтыс з К.

Тады з трох гмін паліцыі наехала. Адзін камендант хіба з тры зубы выплюнуў. Пазней усіх мужыкоў з К. на пастарунак вызывалі.

— Так, так, — ківае галавой солтыс, — за адну бабу дурную, за Маруську!

* * *

— Маруся? — праніклівa аглядае мяне вясковец з К. і хітра адсякае: — Не, не ведаю такой бабы.

— Для „Нівы" скажу, — прапануе іншы мужчына. — Толькі прозвішча не пішы. Бо справа не надта гожая!

— Такая к... была, вясковая прастытутка. З Гайнаўкі да Храпы прыехала. І пяць гадоў ужо будзе. Раней то ўсе ў яе закаханыя былі. Здаровая, прыгожая баба. З мужчынамі па-роўнаму выпівала. Храпа, *брадзяга*, яе змарнаваў. Бывала, выпіваеш з ім, а ён табе сам Маруську прапануе.

— За *підзісят* тысяч, фокусы ведае такія, што... ого, браце! — гавaрыў ён побач магазіна. Многія, вядома, спакушаліся. Да гэтага старых кавалераў намаўляць не трэба. З суседніх вёсак пачалі прыходзіць. Храпа жыў, рук не пэцкаючы. Хто грошы прынясе, хто кошык бульбы, іншы — кавалак сала. У К. часта прападалі куры і гусі. І дровы з панадворкаў таксама. Пазней, калі дзеўка высахла і распілася, то і цана за яе паслугі ўпала.

— За буталь *дзінатуры* распрaналася, або за папяросы *albatrosy*, — адзначае вясковец К. Храпа таксама стаў алкаголікам. Ягоны панадворак зарастаў крапівой. Мой субяседнік не скрывае, што ў К. любяць выпіць.

— І *сіню* часам пацягнуць, — гавораць пра дэнатурат. — А ў С., — адзначае і суседнюю вёску, — то скрынкамі *дзінатуру* купляюць. Пазней як тыя *лёрды* па вуліцы валяюцца.

— Ой Божачкі, Божа, — хрысціцца сустрэтая старэча, — я многае перажыла, а такіх часоў, як сёння ў К., не памятаю.

— Адно к..., зладзейства і вядзьмарства, — махае нервова рукой бабуля. Яе ўнучак таксама *быдлue*. Ідзе на два тыдні ў кампанію і запіваецца насмерць. І высах як сабака. Пра работу ніякую яму і не згадвай. Усё вешаннем страшыць. Бабуля плача, бо Колік адзіны яе ўнучак, адзіная надзея.

— І грошы ў мяне крадзе на выпіўку, такі нюх мае, што пад зямлёй кашалёк знойдзе.

— А Маня?.. Маладая, дурная, з бандытам Храпам зышлася. З-за гэтага бабніка і здурэла.

*(працяг на стар. 5)*

# Мы прачыталі

*Zabiegam o fundusze na budowę i wspieranie szkolnictwa białoruskiego i prasy białoruskiej (...), a „Niwa" atakowała mnie, że na jednym z posiedzeń sejmowej komisji do spraw mniejszości narodowych postulowałem, żeby dotacje dla niej utrzymać na poziomie 1995 r.*, — сказаў нардэп (народны дэпутат) Сяргей Плева ў размове з журналістамі штомесячніка

*Czasopis, nr 7—8*

Нам трэба толькі падзякаваць нардэпу Плеве за тое, што ў рамках яго дапамогі для беларускай прэсы не дамагаўся ён датацыі для „Нівы" з 1985 года. Было б гэта намнога больш арыгінальнае і бліжэйшае найлепшым традыцыям „рэвалюцыйнага руху на Беласточчыне". З выпадку інтэрв'ю ў „Czasopisie" віншуем Плеву з праўдзівасцю і шчырасцю, якая выплывае з яго выказванняў і рэдакцыю — са знакамітым суразмоўцам.

Аказваецца, што адзін „наш хлопец" у Сейме можа стварыць таксама вясёлую атмасферу, як раней табун „нашых хлопцаў" у Ваяводскім камітэце партыі. Дзякуючы між іншым ім — „нашым хлопцам" — маем цяпер знакамітыя беларускія школы, дынамічна развіваючуюся культуру, прэсу на беларускай мове (шмат гэтага) і навокал чуем гучанне беларускай мовы.

* * *

*Dużo piliśmy za czasów saskich. Bogata szlachta pijała wino. Wódka w tym czasie została nazwana w Europie jako „polski trunek". Jej popularność wynikała z przyczyn ekonomicznych. Otóż nie wiadomo było co robić ze zbożem, robiono więc wódkę. Od czasu do czasu dla rozrywki szlachta jechała na Sejm do Warszawy. Dla szlachcica, który przybywał na Sejm, wyjazd do Warszawy był poważnym wydatkiem. Wtedy panowała tam niebywała drożyzna. Dlatego łatwo było go przekupić. Szlachcicowi za zerwanie Sejmu płacono zaledwie kilka złotych.*

*Gazeta—Magazyn, nr 27*

Добра, што цяпер нардэпы назначылі сабе немалую плату. Не зрываюць ужо ніводнага пасяджэння Сейма. Плацім падаткі і маем парадак у краіне.

* * *

*Podczas posiedzenia Senatu, kilku senatorów było nietrzeźwych. — Przecież ja nie mam baloników do sprawdzania stanu trzeźwości senatorów, — oświadczył wicemarszałek Stefan Jurczak.*

*Gazeta Wyborcza, nr 162*

І слушна, бо і каму яны перашкаджалі. Драмалі сабе спакойна. А калі так сабе спалі, ніякіх новых падаткаў, ні іншых дурнотаў не выдумоўвалі.

* * *

*Andrzej Gołota skutecznie reklamował Polskę w tradycyjnej oprawie amerykańskim telewidzom. Pokazywano go w pozie zamyślonego goryla, pokazano fragmenty jego poprzednich walk jak gryzie i bije głową przeciwnika. Do pełnego wizerunku naszego mistrza zabrakło jedynie chustki do nosa z dziurą na palec i filiżanki z uszkiem w środku. Już niedługo Gołota będzie w Ameryce najbardziej znanym Polakiem. Podobnie jak Papież i Wałęsa. Boże uchowaj. Osiłek bijący poniżej pasa urósł do rangi narodowego bohatera. Jest idolem młodych ludzi ze wsi i miasteczek, gdzie występuje ponadprzeciętne bezrobocie, spożycie alkoholu i nadumieralność. Gołota cudem ukończył technikum, zawieszony w prawach ucznia za pobicie kolegi. Przed olimpiadą w Seulu poturbował bramkarzy w jednym z warszawskich klubów, uciekł z Polski przed aresztowaniem, oskarżony o rozbój, do chwili obecnej ścigany jest listem gończym.*

*Wprost, nr 29*

* * *

*Tysiące naszych rodaków w Ameryce czekało na walkę Andrzeja Gołoty z Riddickiem Bowe. Nasi ostrzyli gardła na długo przed walką. Chociaż niektórzy byli trzeźwi, ale wszyscy byli w bojowych nastrojach. Niepokonana duma Polski — Andrew Golota— robił z przeciwnikiem co chciał. Po trzech ostrzeżeniach sędzia wreszcie zdyskwalifikował Gołotę i dopiero wtedy zaczęła się walka.*

*Polityka, nr 29*

* * *

*Падручнікі 1992—1995 гадоў адпраўляюць на макулатуру. На Заслаўскую картонажную фабрыку паступіла вялікая партыя новых школьных падручнікаў для знішчэння. Паводле камуністаў і дарадчыкаў прэзідэнта, падручнікі носяць тэндэнцыйны, палітызаваны характар і не адпавядаюць патрабаванням сучаснай адукацыі.*

*Свабода, н-р 47*

Сучасная адукацыя ў лукашэнкаўскай Беларусі патрабуе падручнікаў з семідзесятых гадоў, калі краіна была аб'яўлена першай рэспублікай, якая закончыла пабудову сацыялізму і пачала хуткім маршам ісці ў напрамку чыстага камунізму. Вяртанне на гэты шлях патрабуе таксама вяртання да праверанай знакамітай адукацыйнай сістэмы.

* * *

*Спадар Лукашэнка ёсць адзіным з нешматлікіх грамадзян Беларусі, які можа свабодна выехаць за мяжу, з краю, які налічвае 10,2 млн. жыхароў. „Я выдаў указ, што ад 1 ліпеня ніводзін грамадзянін нашай рэспублікі не будзе мог выехаць без дазволу улад", — заявіў 20 чэрвеня беларускі прэзідэнт і з увагі на тое, што абрыдла яму, што яго край пераўтвараўся ў пераходны калідор, „усе ўязджаючыя ў Беларусь будуць таксама пад кантролем", — удакладніў былы кіраўнік саўгаса, абраны ў ліпені 1994 г. галавой дзяржавы,* — піша

*Le Monde (Францыя) ад 11.07.1996 г.*

# З мінулага тыдня

**Віктар Ільюхін** — старшыня камітэта Дзяржаўнай Думы Расейскай Федэрацыі па справах бяспекі заявіў, што ў Варшаве пад кіраўніцтвам ЦРУ рыхтуецца апарацыя кампраметацыі і адхілення ад улады прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнкі**. Па яго словах, група з васемнаццаці высокіх прадстаўнікоў амерыканскай разведкі распрацоўвае план сабатажу супраць Беларусі, які прадугледжвае арганізацыю забастовак ва ўсіх вялікіх гарадах рэспублікі, масавыя дэманстрацыі ў Менску і адстаўку прэзідэнта. Для асвятлення забастовак і пратэстаў у сродках масавай інфармацыі амерыканцы прызначылі 250 тысяч долараў. Міністр унутраных спраў Польшчы **Збігнеў Семянткоўскі** аспрэчыў даняесенне, што быццам бы ў Польшчы праводзіцца падрыхтоўка ЦРУ да дзяржаўнага перавароту ў Беларусі, а заяву назваў „бязглуздзіцай".

**Беласток** займае першае месца ў краіне па колькасці здадзеных у мінулым годзе ў карыстанне кватэр на 1000 жыхароў. Іншыя статыстычныя паказчыкі (усе на 1000 жыхароў) таксама ставяць наш горад у авангардзе. Напрыклад, трэцяе месца займае Беласток па колькасці вучняў і студэнтаў, па колькасці лекараў і медсясцёр, а таксама па колькасці тэлефонных абанентаў. У мінулым годзе зарэгістравана найменшы паказчык сконаў — 8. Беласток заняў другое месца (пасля Радама) па велічыні паказчыка натуральнага прыросту — 3,4 дзіцяці.

**У Чорнай-Беластоцкай** адбылося набажэнства з нагоды завяршэння будовы царквы Жон Міраносіц, якое ўзначаліў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**. Будова новай царквы пачалася ў 1983 г.

**Басовішча — абычай і музыка** — так называецца тэлевізійны рэпартаж **Юрыя Каліны** і **Яўгена Вапы**, прысвечаны Фестывалю музыкі маладой Беларусі „Басовішча", які ўжо шосты раз адбыўся ў Гарадку. Фільм дэманстраваўся па І праграме Польскага тэлебачання ў рамках цыкла перадач аб нацыянальных меншасцях „У сябе".

**XXXIII Тыдзень бескідскай культуры**, які праходзіў у Вісле, Шчырку і іншых мясцовасцях паўднёвай Польшчы, змяшчаў у сваёй праграме і беларускія акцэнты. У рамках мерапрыемства з канцэртамі выступілі „Маланка" з Бельска-Падляшскага і „Гуды" з Гродна.

**„Збучлянкі"** — такую назву прыняў народны калектыў са Збуча Чыжоўскай гміны. На ўрачыстасці „хрышчэння" калектыву выступілі таксама „Незабудкі" з Курашава і „Чыжавяне" з Чыжоў.

**IV Самаўрадавы байдарачны паход** па рацэ Нарве праходзіў пад лозунгам прэзентацыі і інтэграцыі нацыянальнасцей і этнічных груп, якія жывуць над гэтай ракой. Байдарачнікі, між іншым, гасцявалі на беларускім фэсце ў Нарве і сустрэліся з **а. Рыгорам Сасной**, які распавёў аб культурных традыцыях Праваслаўнай царквы на ўсходніх рубяжах Рэчы Паспалітай.

**Ваяводскі санітарны інспектар** забараніў купацца і займацца водным спортам на купальнях Полька на рацэ Супраслі, у Нарве і Тыкоціне на рацэ Нарва і на вадаёме ў Крынках.

**Два гектары лесу** згарэлі ў выніку падпалаў у апошнюю нядзелю ліпеня. У гэты дзень беластоцкія пажарнікі тушылі лес у Леньцах (гміна Дабжынева), Падазяранах (гм. Міхалова), Рыбалах (гм. Заблудаў), Асовічах (гм. Васількаў) і Пяшчаніках (гм. Гарадок).

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Панарама Драгічынскай гміны.**
- **Рускія і беларусы ў Беластоку.**
- **На польска-беларускай мяжы** — рэпартаж Міколы Ваўранюка.

# Весткі з Беларусі

**Мітынг дэмакратаў**

У Менску Дзень незалежнасці Беларусі дэмакраты адзначылі святочным шэсцем і мітынгам. Удзельнікі святкавання сабраліся ў скверы Янкі Купалы, а потым пад бел-чырвона-белымі сцягамі рушылі па вуліцах Купалы і Багдановіча да Палаца спорту, дзе адбыўся мітынг. У першых яе шэрагах былі Генадзь Карпенка, Юрый Хадыка, Станіслаў Багданкевіч, Валянцін Голубеў, Лявон Баршэўскі, Аляксандр Бухвостаў. Па падліках міліцыі, якая гэтым разам не разганяла ўдзельнікаў шэсця, ля Палаца спорту сабралася прыблізна 7 тысяч чалавек. Мітынг закончыўся прыняццем звароту да Вярхоўнага Савета РБ. У ім заклікаецца дэпутатаў адправіць у адстаўку прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку за неадназаровае парушэнне канстытуцыі, знішчэнне нацыянальнай эканомікі і культуры, разбурэнне беларускай дзяржаўнасці.

**Жніва без мітынгаў**

На селектарнай нарадзе вертыкальшчыкаў і працаўнікоў сельскай гаспадаркі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ўводзіць на жнівень—верасень, як сам сказаў, рэжым надзвычайнага функцыянавання. На месцы накіроўваюцца прадстаўнікі прэзідэнта і любое супрацьстаянне ім будзе разглядацца як сабатаж. Калі нехта з кіраўнікоў раёна і вобласці дапусціць мітынг ці забастоўку, будзе адхілены ад улады. Органы Міністэрства ўнутраных спраў і службы кантролю прэзідэнта будуць уключацца ў барацьбу за захаванне ўраджаю. Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да сялян і рабочых: „Я веру ў свой народ. У мяне няма нікога, акрамя вас". Палітыкаў, якія выступаюць супраць яго, назваў „азвярэўшымі" і сказаў, што будзе ён прэзідэнтам Беларусі яшчэ два тэрміны. Заявіў ён таксама аб намеры выдаць указ аб стабілізацыі становішча ў рэспубліцы.

**Заява Замяталіна**

Старшыня камітэта Дзяржаўнай Думы Расейскай Федэрацыі Віктар Ільюхін заявіў аб правакацыі, якая рыхтуецца ў Беларусі, і магчымым адхіленні ад улады Аляксандра Лукашэнкі. З гэтай нагоды намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта РБ Уладзімір Замяталін зрабіў наступную заяву: „Падзеі сакавіка, красавіка і мая гэтага году ў Менску гавораць пра тое, што безумоўна існуюць сілы, і не толькі ў Беларусі, якіх не задавальняе грамадская стабільнасць у рэспубліцы і сацыяльна-палітычны курс беларускага прэзідэнта. Калі хто-небудзь і чакае, а можа быць рыхтуе хваляванні ў Беларусі, то гэта не значыць, што яны адбудуцца. Беларусь, як суверэнная дзяржава, і перш за ўсё беларускі народ маюць усе правы і магчымасці жыць у міры і спакоі, як бы каму гэтага не хацелася".

**Аганьбаванне храма**

Пракуратура Цэнтральнага раёна Менска ўзбудзіла крымінальную справу па факце апаганення 24 ліпеня г.г. Свята-Духава кафедральнага сабора. Хуліганы замазалі чорнай фарбай мазаічныя іконы Прасвятой Тройцы, святых Іаана Прадцечы, Мяфодзія і Кірыла, а таксама сцены царквы і распісалі іх сатанінскімі лозунгамі ды пагрозамі фізічнага знішчэння хрысціян. Акт здзеку над галоўным праваслаўным храмам сталіцы асудзіў у сваёй заяве мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, які палічыў гэты акт вандалізму „фактам пагарды канстытуцыі Беларусі, закону аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый, якія стрымліваюць міжканфесійную канфрантацыю".

**Замежныя, хаця і расейскія**

Расейскія банкі будуць мець у Беларусі статус замежных, нягледзячы на інтэграцыйныя працэсы, што адбываюцца ў двух краінах, — заявіла кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава. Паводле яе слоў, для банкаў Расеі не плануецца ствараць якія-небудзь асаблівыя ўмовы і яны будуць працаваць на беларускім рынку па тых жа правілах, што іншыя замежныя фінансавыя інстытуты.

**Адмоўная дэмаграфія**

Назіраецца пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі ў розных рэгіёнах Беларусі. Напрыклад, у горадзе Капылі і ў Капыльскім раёне за першае паўгоддзе памерла ўдвая больш людзей, чым нарадзілася. Яшчэ горшае становішча на вёсцы, дзе смяротнасць перавысіла нараджальнасць амаль у тры разы. Прычыны гэтага — старэнне насельніцтва і нежаданне маладых сем'яў мець больш за адно дзіця.

Бярыце, калі даюць

## Парк, абяцанні і подпісы

Хто меў падпісацца „пад Белавежскім паркам”, падпісаўся. Міністр аховы асяроддзя, прыродных рэсурсаў і лесаводства, беластоцкі ваявода, старшыні радаў і войты дзвюх прыпушчанскіх гмін — Нараўчанскай і Белавежскай. Наканец — прэм'ер-міністр Рэчы Паспалітай. Справа датычыць не толькі тых дзвюх, але і ўсіх прыпушчанскіх васьмі гмін, паколькі прыярытэтныя крэдыты для аховы асяроддзя і папраўы інфраструктуры датычаць іх усіх. Прадстаўнікі гмін папярэдне прапанавалі, каб пры фінансаванні экалагічных інвестыцый прыярытэт мелі датацыі, а крэдыты ў 50 працэнтах былі пагашаны. Увесь час непакоіла прадстаўнікоў самаўрадаў справа, ці змогуць яны выплаціць тыя крэдыты, таму і працягвалася пытанне падпісання дамовы ў справе пашырэння Белавежскага нацыянальнага парку.

Пагадненне гарантуе ўспамогу міністрам Жаліхоўскім стараннямў гмін атрымаць выгадныя крэдыты на інвестыцыі — каналізацыю, ачышчальні сцёкаў, сметнікі, газіфікацыю. Па 4,5 мільёнаў злотаў гарантуе гмінам Нацыянальны фонд аховы асяроддзя. Непакоіла была самаўраднікаў таксама справа „ляснога падатку”, які дагэтуль плаціў Дзяржаўныя лясы. Цяпер ён будзе ў такой жа суме аплачваны Белавежскім нацыянальным паркам, ён жа і пяройме супрацоўнікаў надлясніцтваў, якія працавалі на тэрыторыі, якую цяпер займае парк. Адкуль грошы на ўсё гэта? Вядома, з дзяржаўнага бюджэту — 500 тысяч злотаў, штогод — наступныя 730 тысяч.

Пыталіся ў мяне людзі, што будзе з тымі, хто „рабіў у лесе”. Дырэктар БНП спадзяецца, што будзе месца для каля 25 асоб — 15 штатаў бюджэтных, каля 10 для ляснoе гаспадаркі. Вельмі цікавіла пенсіянерак з Нараўкі, Семяноўкі і Баб'яй-Гары, ці ў такім запаветным лесе можна ўзяць хоць ягаду ці грыб. „Абарыгены” могуць адчуваць там як у сябе, ніхто чапаць іх не будзе (а так баяліся, што будуць высяляць!), і пакуль могуць сxіліцца за ягадкай — няхай бяруць (калі пажарнікі не забароняць паяўляцца ў лесе з прычыны пагрозы пажарамі). Турыстам з гэтым можа быць праблема. Але ж жыць жа трэба, і можа будзе файна — на што ж рабілі б тыя ачышчальні, праводзілі газ, вызначалі месца на сметнікі?.. Гэта ж усё для людзей, мяркуюць старажылы і маладзейшыя, якія, усё ж, яшчэ тут ёсць, жывуць пад пушчай. Хай будзе лес, але не без нас.

**Міра ЛУКША**

## Была ў Грабаўцы школа

З канцом школьнага года спыніла сваю дзейнасць Пачатковая школа ў Грабаўцы Дубіцкай гміны. З гэтага выпадку нялішне будзе прыпомніць гісторыю школьніцтва ў гэтай вёсцы.

Ужо ў 1917—1919 гадах у Грабаўцы існавала беларуская нацыянальная школа, а настаўніцай у ёй працавала Вера Матэйчук. У ліку яе вучняў быў таксама брат маёй бабулі Сямён Васілюк (бабуля распазнала яго на здымку з тамтых часоў).

Пасля II сусветнай вайны шматгадовым дырэктарам школы быў Рышард Масілевіч, які працаваў у Грабаўцы з жонкай Зофіяй да паловы васьмідзесятых гадоў. Жылі яны ў школьным будынку, у якім размяшчаліся яшчэ бібліятэка, настаўніцкі пакой і VIII клас. Астатнія класы знаходзіліся ў прыватных будынках, раскінутых па ўсёй вёсцы. У шасцідзесятых гадах распрацаваны быў праект будовы новай школы ў паўднёвай частцы Грабаўца, пры дарозе ў Кляшчэлі. Аднак новы драўляны будынак школа атрымала толькі ў 1986 годзе. Паставілі яго пры старой школе за кошт Фонду народнага чыну дапамогі школе і пры падтрымцы жыхароў Грабаўца і Елянкі. У ім былі чатыры класы, а на гары — настаўніцкі пакой, дырэктарскі кабінет і бібліятэка. Дзесяць гадоў дзеці карысталіся новым будынкам. У старым школьным будынку апошнім часам жыла настаўніца матэматыкі з сям'ёй. Апрача таго арганізавалі ў ім сціплы спартыўны зал і дашкольны клас (т.зв. нулявы).

У школе працавалі многія настаўнікі, большасць якіх жывуць цяпер у Гайнаўцы і наваколлі, а таксама ў Беластоку. Дырэктарамі школы пасля Рышарда Масілевіча былі Галіна Галёнка, затым Аліна Новік і Ірэна Асіпюк. З шасці настаўніц, якія працавалі тут да ліквідацыі школы, толькі дзве атрымаюць працу ў Дубічах-Царкоўных. Астатнім пагражае беспрацоўе. Старожка пасля водпуску стане працаваць ва Управе гміны.

На ўспамін жыхарам Грабаўца засталіся толькі два школьныя будынкі, аб лёсе якіх прыйдзецца рашаць радным Дубіцкай гміны.

**Славамір КУЛІК**

## Тваражкі другой свежасці

У добрага гаспадара нічога не змарнуецца. А дакладней, нават калі змарнуецца, усё роўна зможа ён гэта выкарыстаць. Такі, наўрад ці станоўчы, прыклад гаспадарлівасці даюць малачарні.

Вядома, што малочныя прадукты псуюцца хутка, асабліва ў летнюю спёку. З другога боку, запатрабаванне на іх вялікае. Не заўсёды можна ўгадаць, колькі чаго даставіць у крамы, каб і кліентаў задаволіць, і не марнаваць прадуктаў. Малачарні знайшлі тут выйсце.

У пунктах скупкі малака гаспадары могуць набываць гатовыя, перапрацаваныя ўжо малочныя вырабы: тваражкі, сыры, смятану. Тым больш што гэта зручна, паколькі не трэба адразу плаціць грашамі, а малачарня сама адлічыць пры выплаце за прададзенае малако. Мала хто з пастаўшчыкоў малака шукае на ўпакоўках нейкіх там тэрмінаў прыгоднасці прадукту. Асабліва старэйшыя людзі (а такіх у нашых вёсках найбольш) не прывыклыя да гэтага. Толькі дома аказваецца, што жоўты сыр зацвіў, а тваражок брыдка пахне. Людзі выкідаюць гэта, але ўсё ж такі мала хто рашаецца аднесці сапсуты прадукт назад. А то таму, што малачарка знаёмая і не хочацца рабіць ёй прыкрасці, а то проста не хочацца галаву сабе марочыць, або з-за нейкай сарамлівасці і непадрыхтаванасці нашых людзей дабівацца сваіх правоў.

Такім чынам кіраўніцтва малачарні задаволенае, бо знайшло збыт на ўсю сваю прадукцыю. Гарадскія кліенты таксама, бо хапіла тварагу ў іхняй краме. А вёска змаўчыць, нават калі яе да смерці карміць гнілой ежай.

**(ак)**

## Наш адрас: Zamenhofa 27

Ветліва інфармуем усіх нашых чытачоў і сяброў „Нівы”, што рэдакцыя наша знаходзіцца ўжо пры вуліцы Заменгафа 27. З прычыны няспыннага росту арэнднай платы, мы былі вымушаны пакінуць будынак, у якім „Ніва” знаходзілася ад 1958 года. Праўда, нядаўна нас „павысілі” і з першага паверху перавялі на трэці, але тады наш адрас не змяніўся.

Нашу рэдакцыю наведваюць многія нашы адданыя чытачы. Запрашаем Вас, дарагія Сябры, таксама ў новую сядзібу, а каб лягчэй было Вам нас знайсці, друкуем план гэтай часткі Беластока.

**РЭДАКЦЫЯ**

Мал. А. ВЯРШЦКАГА

## Кузава без крамы!

Кузава, што ў Чаромхаўскай гміне, налічвае больш за сто гаспадарак. У вёсцы з незапамятных часоў была крама. Пабудаваў яе колішні Гайнаўскі ПЗГС, калі гэту фірму ўзначальваў вядомы не толькі на Гайнаўшчыне спадар Канстанцін Майсеня.

Уладальнікам аб'екта быў ГС у Кляшчэлях. Але пасля банкруцтва гэтай гандлёвай фірмы будынак арандаваў Янка Ліпінскі — прыватны прадпрымальнік з Чаромхі.

Жыхарам Кузавы ўсё роўна, хто з'яўляецца шэфам крамы. Асноўнае, каб яна працавала. І хаця кузаўцам у Чаромху не надта далёка, пакупнікоў у мясцовай краме заўсёды хапала. Аднак ужо некалькі месяцаў крама на замку. Аказваецца, што прычынай закрыцця было рашэнне Гайнаўскай санэпідэмічнай станцыі, паколькі ў магазіне няма цякучай вады, але затое працякае дах. Кузаўцы аднак гавораць, што прадпрымальнік „перагаварыўся” з санітарнымі чыноўнікамі і папаў у няласку.

Магчыма, што гэта і праўда, бо калі спадар Ліпінскі прасіў дазвол на адкрыццё крамы, тады таксама вады не было. Ведалі аб гэтым адпаведныя ўстановы ў Гайнаўцы і Чаромсе, якія мелі дачыненне да дазволу. У чым заключаецца спраўдная прычына, нам дагэтуль і не ведаць. Шкада толькі, што па прычыне непаразуменняў жыхары Кузавы засталіся без крамы.

**(ус)**

# „Памірае наша нацыя"

*(працяг са стар. 1)*

З каталіцкіх гмін толькі Сураж мае падобную статыстыку: два разы больш сконаў чым нараджэнняў (30 — 15) і сярэдні ўзрост 41 год.

У іншых каталіцкіх гмінах узрост вагаецца ад 36 да 39 гадоў. Гэта абазначае, што нават калі яны і пачнуць адміраць, працэс гэты будзе спознены ў параўнанні з праваслаўнымі гмінамі на нейкіх 10 гадоў. На пачатку XXI ст., калі рэзка паменшыцца колькасць насельніцтва праваслаўных гмін, у каталіцкіх яшчэ будзе ўмоўная стабілізацыя. У след за праваслаўнымі гмінамі пойдуць спярша ўсходнія гміны з мешаным насельніцтвам. Дарэчы, куды там не заедзеш, даведваешся, што каталікі маюць яшчэ наследнікаў, падчас як праваслаўныя ўжо не. Такім чынам, змяншэнне колькасці насельніцтва ў гэтых гмінах будзе суправаджацца знікненнем праваслаўных.

Зусім не думаюць паддавацца сусветнаму закону адмірання вёскі жыхары заходніх гмін ваяводства. „На шляхце" надалей прыбывае людзей. Разам з адміраннем суседніх праваслаўных вёсак паскорыцца працэс прыватнага асадніцтва „шляхты" на іх тэрыторыі. На пачатку XXI ст. „шляхта" прыкметна перасунецца на ўсход, а ў Бельску каталікі стануць большасцю.

На канец некалькі заўваг пра колькасць праваслаўных і беларусаў на Беласточчыне.

У вясковых гмінах пражывае каля 80 тысяч праваслаўных. У гарадах і мястэчках, такіх як Бельск, Гайнаўка, Сямятычы, Саколка і Кляшчэлі — каля 40 тысяч.

Найцяжэй палічыць праваслаўных у Беластоку. Я параўнаў колькасць нараджэнняў у Беластоку ў 1995 г. з колькасцю хрышчэнняў у 1995 г. ва ўсіх праваслаўных прыходах Беластока.

На жаль, параўнаць колькасць праваслаўных хрышчэнняў з каталіцкімі я не магу. У канцылярыі Каталіцкай архібіскупскай курыі ў Беластоку мне адмовілі падаць адпаведныя даныя. Бурклівы мужчынскі голас мала ветліва паінфармаваў мне, што гэта ўнутраная справа Касцёла; і зусім яго не цікавіць, дзеля чаго мне патрэбны гэтыя лічбы.

Апрача таго адзначым, што межы прыходаў не зусім супадаюць з межамі горада, не ўсе хрысціць дзяцей зараз жа пасля нараджэння, некаторыя хрысцяць дзяцей у родных вясковых прыходах, а некаторыя наогул не хрысцяць дзяцей (але тады ніякія яны праваслаўныя).

Памятаючы аб тым, сцвярджаем, што ў Беластоку нарадзілася ў 1995 г. 2 757 дзяцей, а ахрышчаных у праваслаўі было 384, значыць — 13,5%. Гэта сведчыць, што калі не цяпер, дык праз нейкі час такі самы будзе працэнт праваслаўных у горадзе Беластоку. У будучыні ён яшчэ паменшае: праваслаўныя шлюбы ў беластоцкіх прыходах узяло летась толькі 128 пар, падчас як у горадзе зарэгістравана іх 1 592. Такім чынам праваслаўных шлюбаў было толькі каля 8%.

Калі лічыць праваслаўных у Беластоку на 13—14%, атрымоўваем 37—38 тысяч праваслаўных. Усё-такі толькі палова праваслаўных увaходзіць у сужонствы з праваслаўнымі. Другая палова жэніцца з каталічкамі, у прыгнятальнай большасці бярэ каталіцкі шлюб і хрысціць дзяцей у касцёле, не мяняючы веравызнання. Таму праваслаўных „па паходжанні" безумоўна болей за 40 тысяч, магчыма 60—70 тысяч. Як ні глядзі, але ў найбольш аптымістычных падліках праваслаўныя састаўляюць толькі чвэрць насельніцтва Беластока. Гэты працэнт будзе хутка падаць. На пачатку XXI ст. у поўнасцю праваслаўных сем'ях будзе жыць крыху больш за 10% насельніцтва Беластока.

Усяго на Беласточчыне пражывае 160—180 тысяч праваслаўных. Прытым другая лічба вельмі аптымістычная. Такім чынам праваслаўныя складаюць каля чвэрці ўсяго насельніцтва Беласточчыны. На пачатку XXI ст. рэзка паменшыцца як колькасць праваслаўных, так і іх працэнтны ўдзел у складзе насельніцтва Беласточчыны наогул. Паменшыцца таксама арэал рассялення праваслаўных.

У рэшце рэшт пра беларусаў. Прайшоў ужо час, калі можна было атаясамліваць праваслаўных з беларусамі. Паводле даследаванняў праф. А. Садоўскага (а гэта вельмі сумленны даследчык), беларусам лічыць сябе толькі кожны чацвёрты праваслаўны. Такім чынам беларусаў на Беласточчыне ўсяго каля 40 тысяч. Нацыянальная прыналежнасць гэта справа свядомасці. У адрозненне ад дэмаграфіі, не паддаецца яна простым правілам. На пачатку XXI ст. тутэйшыя беларусы могуць амаль зусім знікнуць, але не мусяць.

Паміраць збіраешся, а жыта сей.

**Алег Латышонак**

P.S. У артыкуле я пакарыстаўся данымі Цэнтра камп'ютэрнай інфармацыі Ваяводскай управы ў Беластоку і Канцылярыі Праваслаўнай архіепіскапскай курыі ў Беластоку.

# Змагарам за Беларусь

Вясною наш рэдакцыйны калега Алег Латышонак абараніў на Гістарычным аддзяленні Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні доктарскую дысертацыю (у Беларусі — кандыдацкая) „Беларускія вайсковыя фарміраванні ў 1917—23 гадах". Цяпер гэтую працу Беларускае гістарычнае таварыства выдала асобнай кніжкай.*

Напісаць яе мог толькі беларускі гісторык з Польшчы. У Рэспубліцы Беларусь, дзе душыцца ўсё беларускае, гісторыя свайго народа непатрэбная. З другога боку, палітычны ўціск родзіць супраціў — нацыянальныя гісторыкі часта пераўвялічваюць значэнне пэўных асоб, з'яў, фактаў, бо гэта было наша. У выніку, атрымліваецца нават падрабязнае і аб'ектыўнае апісанне падзей, але дзесьці гіне фон, на якім яны праходзілі.

Але Латышонак засвоіў салідны навуковы апарат польскага гісторыка ў адной з першых школ краіны — Ягелонскім універсітэце. Аднак, у адрозненне ад сваіх калег, якія беларускія пытанні разглядаюць выключна ў польскім кантэксце, даследуе ён мінулае Беларусі як гістарычнага суб'екта. Спробы беларускіх вайсковых і цывільных дзеячаў у пару завірухі канца I сусветнай вайны, расейскіх рэвалюцый і польска-бальшавіцкай вайны ствараць свае нацыянальныя атрады ўспрымае (слушна) як адстойванне са зброяй у руках незалежнасці Бацькаўшчыны — аб'яўленай першы раз у форме Беларускай Народнай Рэспублікі.

У кніжцы падрабязна прасочаны ўсе ініцыятывы, пачынаючы ад стварэння Беларускай цэнтральнай вайсковай рады ў 1917 годзе. Пазней былі спробы абаперціся на бальшавікоў, палякаў, немцаў, літоўцаў, атрад генерала Булак-Балаховіча, Слуцкае паўстанне і нават такія экзатычныя фарміраванні як беларуская белагвардзейская дывізія ў Адэсе ў 1919 годзе.

Так склалася, што калі праз Беларусь каціліся франты і перавальваліся чужыя арміі, найбольш беларусаў-салдатаў апынулася ў Малдавіі, на румынскім фронце. У 1918 годзе аб'ядналіся яны ў стотысячную нацыянальную армію, якая, аднак, не змагла вярнуцца на Бацькаўшчыну са зброяй у руках. Беларусы з Малдавіі вярталіся раззброеныя і ўроссып.

Паводле падлікаў аўтара, у 1917-23 гадах за незалежную Беларусь змагалася звыш дзесятка тысяч чалавек. Гэта невялікая лічба, але калі памятаць пра этап, на якім знаходзіўся беларускі нацыянальны рух, трэба пагадзіцца з Латышонкам, што была ў яго „свая ўнутраная сіла". Як і трэба памятаць, што за Беларусь змагаліся выключна добраахвотнікі. Ці ў склаўшыхся ўмовах былі ў іх якія-небудзь шанцы на поспех, гэта асобнае пытанне.

У кніжцы не ставіцца задача адказаць на яго. Алег Латышонак не займаецца спекуляцыямі, а паказвае факты, прычым мала або і зусім невядомыя. За аўтарам грунтоўныя пошукі ў многіх архівах Польшчы, Беларусі, Расеі, Літвы, ЗША, Галандыі і ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане. Прасачыў ён тагачасныя газеты, шматлікія друкаваныя і рукапісныя ўспаміны дзеячаў, правёў аналіз гістарычнае літаратуры, якая кранае гэту тэму. Таму менавіта кніжка ўражвае сваёй змястоўнасцю і завершанасцю.

Элегантнае выданне (характэрнае Беларускаму гістарычнаму таварыству), дапоўненае імянным індэксам і надзвычай рэдкімі фатаграфіямі, заахвочвае ўзяць яго ў рукі. Патэнцыяльных палемістаў, якіх асабліва многа сярод нашых самародных „гісторыкаў", праўда, можа адпіхнуць мора прозвішчаў, датаў, назваў арганізацый. Але тут нічога не зробіш, альбо прачытаеш і будзеш ведаць, альбо не бяры голасу ў дыскусіі. Tertium non datur.

**Мікола Ваўранюк**

* Oleg Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 1995.

# Агенты ЦРУ і Лукашэнка

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз паказаў, што ён вельмі спрытны палітык. Ведаючы, што набліжаецца новая хваля пратэстаў супраць яго палітыкі і загадзя падрыхтаваўшыся да гэтых падзеяў, апярэдзіў ён апазіцыю на некалькі рухаў. Вуснамі нейкага рускага таварыша Ільюхіна заявіў, што амерыканскія разведчыкі з ЦРУ, разам з палякамі і дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, рыхтуюцца адхіліць яго ад прэзідэнцкай улады. Няважна, што заява Ільюхіна ўспрымаецца ў свеце як праява фантазіі аднаго з лідэраў расейскіх камуністаў, паколькі яна накіравана на патрэбы ўнутранай палітыкі Беларусі. Варта прыгадаць, што падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі ў Беларусі нехта быццам бы страляў у кандыдата Лукашэнку. Былі нават дзіркі ў ягоным „Мерседэсе". Пасля выбараў, калі кандыдат Лукашэнка стаў прэзідэнтам і атрымаў неабмежаваны доступ да ўсіх міліцэйскіх крыніц, ніколі не прабаваў адшукаць злачынцу, які імкнуўся пазбавіць яго жыцця. Вядома толькі, што тыя выстралы, якіх гуку ніхто не чуў, прыбавілі яму некалькі соцень тысяч галасоў нерашучых выбаршчыкаў.

У знакаміты спосаб выкарыстаў таксама Лукашэнка талент пазбаўленага якой-небудзь сумленнасці кінарэжысёра Юрыя Азаронка, які па заказу прэзідэнта стварыў фільм „Нянавісць". Гэты твор двойчы дэманстраваўся па беларускім тэлебачанні напярэдадні славутага рэферэндуму. Нехта, пабачыўшы гэты фільм, натрапаў Азаронка „па мордзе", нехта абвінавачыў рэжысёра перад судом і выйграў справу, але ўсё гэта на практыцы не мела ніякага значэння. Лукашэнка галасамі беларусаў выйграў антыбеларускі рэферэндум. Ніякага ўплыву на штодзённае жыццё не мае таксама і тое, што прамоваў Аляксандра Рыгоравіча смяецца кожны адукаваны грамадзянін Беларусі і глядзіць на прэзідэнта як на хворага чалавека. Так сама свайго ўсенароднаабранага лідэра ўспрымала і нямецкая эліта трыццатых гадоў. Для прыгнятаючай большасці грамадства Лукашэнка — гэта прасталюдзін, адзін з натоўпу, якому пашанцавала заняць царскае крэсла. Ён „свой хлопец", які голасна гаворыць тое, што думае калгаснік, рабочы, п'яніца. Яго пагарда для палітыкаў, інтэлігенцыі, усялякага вальнадумства яднае яму толькі новых прыхільнікаў з люду. Ці ж не магла спадабацца заява прэзідэнта ад 29 ліпеня, што народ даў яму ўладу і толькі народ можа яго яе пазбавіць. Канстытуцыя, дэмакратычныя механізмы — гэта фактары, якія так у сапраўднасці мала хто разумее, а яшчэ менш патрабуе. Указ прэзідэнта аб забароне дэманстрацый, страйкаў і пратэстаў на жніўны перыяд можа шакіраваць толькі замежнікаў.

Знакамітая большасць праўдападобна паверыць афіцыйнай прапагандзе, што ўсе пратэстуючыя супраць палітыкі Лукашэнкі з'яўляюцца прыслужнікамі агентаў ЦРУ. Бедны народ, які месяцамі чакае зарплаты, стаіць у чэргах за танным салам і гарэлкай, заўсёды абураецца, калі нехта перашкаджае іх любімаму прэзідэнту „делать порядки", „запускать заводы". Ні голад, ні холад не стане перашкодай, каб яшчэ раз 80% беларусаў аддало свае галасы ў падтрымку Аляксандра Рыгоравіча. Можа не кожнаму гэтая асаблівасць палітычнага жыцця Беларусі будзе зразумелай, але і ніхто яшчэ не адказаў на пытанне, чаму пасля смерці Сталіна плакалі ад жалю таксама яго ахвяры.

**Яўген Міранoвіч**

# Фэсты і паслы

Фэст у Вярхлессі — спецыяльнае прывітанне старшынёй БГКТ паслоў Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плевы. Купалле ў Белавежы — а як?! — удзельнікам быў пасол Сяргей Плева. Цяпер пачатак лета. На колькіх яшчэ фэстах старшыня БГКТ будзе вітаць, як спецыяльных гасцей, паслоў? Парламентарыі кааліцыйнай партыі выкарыстоўваюць кожную нагоду для таго, каб будучыя выбаршчыкі ведалі, каго пакінуць на выбарчым бюлетэні. Так больш-менш ствараецца імідж палітыка.

Але штосьць тут не так. Трэба паставіць некалькі пытанняў. Фэсты з'яўляюцца культурнымі мерапрыемствамі Таварыства, якое карыстаецца фінансавай падтрымкай Міністэрства культуры і мастацтва. Інакш кажучы, паслы выкарыстоўваюць грошы падаткаплацельшчыкаў для партыйнай дзейнасці. Калі так, дык чаму ж такой нагодай не карыстаецца БДА (Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне — гэта для тых, хто забыў, або не ведае гэтай абрэвіятуры)?

Другое істотнае пытанне ўзнікае само па сабе. Чаму паслы прычапіліся да БГКТ, як мухі да мёду? А можа наадварот? Які інтарэс мае БГКТ, каб папулярызаваць паслоў СЛД? Ці гэта дзякуючы ім арганізуюцца фэсты? Гэта ж аўчынка вырабу не варта. Колькі ж трэба пры гэтым натрудзіцца, наездзіцца па вёсках, каб Плева з таварышамі ўвайшлі ў Сейм. І найважнейшае пытанне: якую канкрэтную карысць мае грамадскасць вёсак і мястэчкаў усходняй Беласточчыны ад таго, што іх прадстаўніком з'яўляецца пасол Плева і яго сябры? Ці апошнім часам паменшала колькасць беспрацоўных? Ці селянін можа беспраблемна збыць сваю прадукцыю? А можа дзякуючы ім прыбыло дарог? А што ў галіне асветы і культуры зрабіў пасол? А што з беларускай культурай? Ці намагаецца ён заснаваць Беларускі інстытут культуры? Калі хтосьці сэнсоўна адкажа на гэтыя пытанні, буду яму ўдзячны за гэта, а суседа буду намаўляць галасаваць на левых дэмакратаў, а канкрэтна на пасла Плеву і таксама на спадара Я. Сычэўскага за палітычны нюх. Буду галасаваць за праграмай, а не супроць „Салідарнасці".

**Міхась Купгэль**

# За дурную бабу

*(працяг са стар. 1)*

У К. больш за дваццаць старых кавалераў. Усе пасля войска, да жаніцьбы гатовыя. Сам солтыс таксама яшчэ халасцяком ходзіць.

— Мне бы якую ўдаву, ці разведзеную знайшлі б у „Ніве". Мне б каб толькі кароў падаіла, лыжкі памыла, а ўсё апошняе сам рабіць буду. Такое жыццё праклятае, — разважае солтыс з К. — Чалавек адзін, як палец, і на старасць ніхто шклянкі вады не паднясе.

* * *

Маруся ад пачатку не мела шчасця. Маці прывезла яе, двухмесячнае немаўля, з аднаго *пэгээру*. Маруся ніколі не бачыла свайго бацькі. З малых гадоў балела ёй галава. У школе таксама была апошняй. Бачачы яе недахопы, хутка перавялі дзяўчыну ў спецыяльную школу. Пазней праца ў швейным прадпрыемстве, свае грошы. Першая любоў і сябры. Маруся кожнай суботы гуляла на вясковых забавах. Пасля адной такой забавы, зацяжарыла. Не ведала бацькі свайго дзіцяці. Скончылася ўсё абортам і бяздзетнасцю. У 19 гадоў выйшла замуж. Муж яе біў і безупынна гвалтаваў, Аднойчы ў рэстаранчыку Маруся пазнаёмілася з Храпам, тыдзень пазней пераехала ў К. Пра мужа хутка забылася. Пасля даведалася, што сядзіць ён у турме. Памерла таксама і маці Марусі. Дзяўчына асталася адна на свеце.

* * *

Валік Д., з курыцай пад пахай, завітаў да Храпаў. У кішэні тырчэла бутэлька дэнатурату.

Маруся не заўважыла яго прыходу. Ляжала яна напітая пад яблынькай. Храпа хутка прывалок яе ў хату. Пачаў будзіць дзяўчыну халоднай вадой. Валік Д. хацеў ужо адмовіцца ад мэты свайго прыходу, але Храпа яго ўгаварыў.

— Пяць хвілін і ўсё будзе! — суцяшаў ён кліента, вясковага калегу.

Пакуль Маруся рыхтавалася ў суседнім пакойчыку, мужыкі распівалі бутэльку. Раптам успыхла бойка. За што? Храпа не ведае. Памятае толькі, як выбегла голая Маруся і з матычкай кінулася на Валіка Д.

— Мой Храпа, — успамінала пазней Маруся Х. — кажа да хлопца: „Ты х..., не можаш сабе бабы знайсці. У тваім узросце я ўсе задарма абскокваў. Былі і такія што самі прасіліся".

Валік Д. не сцярпеў абразы. Схапіў Храпу за глотку і пачаў душыць. Тады прыбегла з суседняга пакойчыка Маруся. Па дарозе ёй у рукі папалася матычка. Ударыла ёю з усяе сілы ў Валіка Д. З галавы юнака пацёк ручаёк крыві. „Хіба забіла", — віснула Маруся і голая выбегла на вуліцу. Неўзабаве пазбягаліся ўсе вяскоўцы з К. Храпа ледзь стаяў на нагах.

— Я не вінаваты, — захрыпеў ён перапітым голасам і ніцма зваліўся на траву.

Маруся вішчала і скавытала. Пабегла тапіцца, але яе злавілі. Пазней павязалі вяроўкамі і ўкінулі ў камору. Але і адтуль чуваць было яе праклёны, адрасаваныя канкрэтным мужчынам з К. Сярод грамады ўспыхла яшчэ большая агрэсія. Маруся называла ўсіх сваіх каханкаў з К., нярэдка жанатых і малалетніх юнакоў.

У К. павеяла чарговай вайной. Да дзвярэй каморы рваўся падлетак названы Марусяй.

— Заб'ю тую к..., — гарланіў, аж чуваць было ў суседняй вёсцы С.

У натоўпе таксама пачалі малаціца кулакамі. Солтыса нават зграблі пад ногі. Трох вяскоўцаў у шпіталь павезлі. Вайну доўга тушылі ахоўнікі парадку. Але і гэтыя ад'ехалі з паламанымі касцямі і сінякамі. Валіка Д. пахавалі трэцяга дня пасля трагедыі. Марусю адразу забралі ў харашчанскую псіхушку. Адно Храпа ходзіць па вёсцы і ўсім паўтарае, што ён нявінны.

За бабу дурную ўсё гэта! За бабу!

**Ева Сцепанюк**

# Душа баліць

Проста душа баліць, калі гляджу на ўсё гэта. Чаму ж наш беларускі народ такі дурны, дзе падзелася наша годнасць? Цяпер амаль усе з маленства вучаць дзяцей польскай мове, у тым ліку і маці ў захалусцелых вёсках. Бывае, што дзіця родную мову пачуе на вуліцы, а не ў роднай хаце. Часта дзед з бабай, якія добра не ведаюць польскай мовы, балакаюць да ўнукаў папольску. Дзеці родную мову павінны пачуць ад маці і ў роднай хаце спазнаваць яе прыгажосць.

Мала таго, беларусы не толькі гавораць па-польску, але яшчэ становяцца ўкраінцамі і робяць такое людзі, якіх дзяды і прадзеды былі стопрацэнтнымі беларусамі. Я не супраць украінцаў, бо яны ж нашы браты-славяне, але няхай яны пакінуць наш народ у спакоі і не перахрышчваюць нам роднай Беласточчыны. Ужо самыя назвы мясцовасцей гавораць пра **бе**ларускасць: **Бел**ьск, **Бел**асток, **Бел**авежа. Няхай украінцы далей застаюцца нашымі братамі, а беларусы няхай астануцца сабою.

Мабыць, няма нідзе ў свеце другога такога народа, які б так патаптаў сваю нацыянальнасць. У нас, у суседняй вёсцы Крывой праводзіцца рамонт школы. Восенню будуць у ёй адноўлены заняткі. Чула я, што ў школе ўжо не будзе ўрокаў беларускай мовы як раней, але пачнуць вывучаць украінскую. Можа неўзабаве і белліцэі ў Бельску і Гайнаўцы стануць перараблялі на ўкраінскія?

Чыя гэта віна, што настаўнікі, якія закончылі беларускую філалогію, не тлумачаць дзецям, што нельга мяняць сваю родную мову і нацыянальнасць, што гэта проста грэх! Чаму ж яны не паказваюць вучням прыгажосць беларускай мовы, чаму не прывіваюць любві да роднага?

Калісьці пісьманосцы па вёсках прапагандавалі падпіску „Нівы" і калі б цяпер яны гэтае рабілі, людзі газету куплялі б. Толькі трэба, каб рэдакцыя зноў пачала друкаваць тэлевізійную праграму, бо многа людзей купляе газеты толькі з-за гэтага.

Думаю, што і нашы бацюшкі сваім прыхаджанам у царквах, а Уладзіслаў Праховіч і вялебны айцец Рыгор Місяюк радыёслухачам маглі б тлумачыць, хто яны па нацыянальнасці. Проста трэба, каб нашы беларусы апамяталіся і далей адчувалі сябе беларусамі і не пераходзілі ва ўкраінскія гурткі. Няхай прафесар Аляксандр Баршчэўскі ўмацоўвае студэнтаў Кафедры беларускай філалогіі ў беларускасці і няхай яны, закончыўшы вучобу, нясуць у сёлы і гарадкі любоў да роднай мовы, да роднага народа.

Надрукуйце верш Віктара Гамуліцкага „Белая Русь", у якім ёсць наступныя радкі:

*o białoruska mowo,*
*dźwięk twój śpiewny budzi echa*
*dawnych lat.*
*Ty jesteś mową białych, mir czujących*
*ludzi,*
*puszcz wonnych, starych chat.*

Гэты фрагмент запамятаўся мне са школьных гадоў, а хацелася б мне мець поўны тэкст верша, каб паказаць яго некалі сваім унукам.

**Мар'я Бяседа, Локніца**

Ірэна Лукша

# Чалавек і прырода

Няма нічога прыгажэйшага на зямным шары за самую натуру. Колькі прыгажосці і багацця ў лясах, у глыбінях рэк, азёр, мораў і акіянаў. Колькі карысці дае чалавеку прырода!

Чалавек — істота найбольш развітая на зямлі — не заўсёды ўмее гэта правільна ацаніць. Колькі бяды можа ён нарабіць сваёй легкадумнасцю, нядбайнасцю і хцівасцю раслінам, звярам, рыбам, птушкам і, на канец, сабе.

Чалавек — цар на зямным шары. Ад яго капрызаў залежыць жыццё на нашай планеце.

Засмечванне лясоў і пляжаў, выдаленне забруджаных на заводах сцёкаў у рэкі — гэта для многіх нічога дрэннага. Браканьерства таксама лічыцца нармальнай з'явай. Мае гэта адмоўны ўплыў на прыроду, так як і выцяканне нафты з танкераў ці выбух атамнага рэактара ў Чарнобылі. Амаль кожны дзень выбухае газ, успыхваюць пажары, не раз уначзее ўся сям'я падчас сну, бо быў няшчыльны комін.

На цэлым свеце пачынае развівацца рух аховы прыроды. Дзеці, моладзь і дарослыя прыбіраюць лясы. Гэта ўсё замала, каб на нашай планеце было чыстае паветра і адрадзілася жыццё там, дзе вымерла, атручанае шкоднымі ядахімікатамі.

Большасці людзей гэта не хвалюе. Думаюць толькі аб сваіх карысцях, забываючы, што чалавек — неад'емная частка прыроды.

Іх цікавіць толькі адно: хочуць здабыць грошы не працуючы. Узнікаюць банды, якія абкрадаюць крамы, б'юць нявінных людзей, каб аддалі ім цяжка запрацаваныя грошы. Ёсць нават банды міжнароднага маштабу. Яны крадуць самаходы на захадзе і правозяць кантрабандай на ўсход. Найгоршыя банды, якія займаюцца продажам наркотыкаў; яны пачынаюць прымушаць вучняў пачатковых і сярэдніх школ купляць і карыстацца наркотыкамі. Калі вучні супрацiўляюцца, вывозяць іх у глухое месца і б'юць. Узніклі банды, якія прадаюць дзяўчат у заходнія краіны. Робяць гэта подступам: абяцаюць, што там чакае іх праца ў рэстаране. Вядома, цяпер з працай цяжка; кожная думае, што на захадзе заробіць грошы і неяк там уладкуецца. Спатыкае іх там, аднак, вялікае расчараванне — уласнік рэстарана змушае іх да прастытуцыі.

Што на гэта паліцыя, пракуроры, суддзі?

Караюць такіх злачынцаў. Аднак пакараць іх можна толькі тады, калі ёсць канкрэтныя доказы і сведкі. Часам паліцыі ўдасца затрымаць злачынцу з кантрабандай і доказ гатовы; горш, калі гэта не ўдаецца. Сведкі нічога не скажуць, бо баяцца злачынцаў.

Многа такіх адмоўных з'яў на цэлым свеце. Найгорш, што ўзнікаюць маладзёжныя банды.

Колькі на свеце было войнаў з прычыны рэлігіі, колькі цяпер такіх узброеных канфліктаў.

Колькі чалавек назапасіў рознай зброі, каб знішчыць чалавека іншага веравызнання ці светапогляду.

Хто ведае, што чакае нас заўтра. Можа нейкі вар'ят прыцісне кнопку і пусціць у ход усе ракеты. Тады наша планета загарыцца агнём і знікне ўсё жывое.

Вучоным неаднойчы ўдавалася вынаходзіць лякарствы ад розных хвароб. Калі, нарэшце, удасца вынайсці лякарства ад людской нянавісці і хцівасці? Калі, нарэшце, чалавек правільна ацэніць акружаючае нас асяроддзе і зробіць усё, каб не атручваць яго?..

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Жніва.* Малюнак Пятра ДЗЕМЯНЮКА

## Крыжаванка № 32

Сённяшняя крыжаванка тэматычна звязана са жнівамі. Большасць слоў вы знойдзеце ў вершы Авяр'яна Дзяружынскага „Перапёлка". Калі вы правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг — загаловак згаданага вершыка.

1. Пасля скашэння жыта.
2. Так калісьці называлі жанчыну, якая сярпом жала жыта.
3. Цвіце жоўтым колерам; яго косім найперш.
4. Рад збожжа скошаны касой.
5. З яе мукі пячэм булкі.
6. Збожжа на кашу або на шматкі (платкі).
7. Даўней у іх складалі скошанае збожжа.
8. Прылада для касца.
9. Пазней з яго хлеб.




**Наш слоўнік: Перапёлка** гэта не толькі назва птушкі, але і вянок, якім завяршалі жніва.

## Перапёлка

Вецер
Жыта ў полі гушкаў —
Абудзіў у жыце
Птушку,
Абудзіў на золку
Птушку — перапёлку.
Перапёлка ўстала рана,
Па траве пайшла расянай,
Пакупалася ў расе,
Пасушылася ў аўсе.
Паглядзела —
Спелы колас,
Загукала на ўвесь голас:
— Уставайце
Усе, хто спіць,
Жаць — касіць,
Жаць — касіць!

**Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ**

## Ганулька з Рыбалаў



Ганулька вельмі любіць гуляць са сваім коцікам „Пушкам". Дзяўчынка вельмі прыгожа гаворыць на роднай мове. Яе мама сказала аднойчы: „Гануля лічыць сябе ўжо дарослай. А ведаеце чаму? Бо ўжо „па-дзіцячаму" не гаворыць з дарослымі". Сама Гануля прыдумала, што польская мова, відаць, „дзіцячая", бо так у Рыбалах размаўляюць яе ўсе аднагодкі. Маленькая разумнічка свабодна карыстаецца ўжо дзвюма мовамі. Яна ведае шмат беларускіх вершыкаў. Разам з братам Міхасём і маленькім Петрусём заўсёды аглядаюць „Зорку".

*Тэкст і фота*
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Навальніца

Шуміць таполя за вакном,
Пасвіствае у голлі вецер,
Грывастым, уздыбленым канём
Над вёскаю віхор праляцеў.

Пярун маланкай паласнуў,
Зарагатаў раскатам грому,
Купал сусвету страсянуў,
Пакрэмзаў чорную заслону,

Што паглынала спакваля
Прастор зямлі і высь нябёсаў.
Смагу натольвае зямля
Пад рогат неба стогалосы.

**Уладзімір СІЎКО**

## Джэк і бабовае зерне

***(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)***

Гэта вельмі напалохала Джэка, але, памятаючы пра апякунства феі, ён вырашыў, што перахітрыць волата. Ён пачаў маліць кабету, каб тая дазволіла яму пераначаваць і схавала яго ад мужа. Добрая жанчына нарэшце згадзілася і правяла яго ў дом.

Яны прайшлі праз прыгожы хол, потым праз некалькі вялікіх, шыкоўна абстаўленых пакояў, якія, праўда, мелі выгляд занядбанасці. Пасля яны трапілі на галерэю — вельмі цёмную і вузкую. Замест сцен тут былі краты, за якімі можна было ўбачыць ахвяр жахлівага волата, якіх ён трымаў, каб потым з'есці. Убачыўшы такое, Джэк ажно спалатнеў, падумаў, што больш ніколі не ўбачыць маці, бо напэўна трапіць волату на сняданак. Але прыгадаў фею, і ў яго душы зноў з'явілася надзея.

Жанчына правяла Джэка на кухню, дзе гарэў вялікі камін, пасадзіла яго за стол і добра накарміла. Не паспеў ён скончыць вячэру, як пачуў грукат у дзверы, такі моцны, што дом затросся. Джэк схаваўся ў печ, а жонка волата пабегла адчыніць дзверы.

Праз нейкі час пачуўся аглушальны голас:

— Жонка! Я чую пах свежага мяса!

— Што ты, дарагі! Гэта проста пах людзей з астрога.

Волат супакоіўся і сеў ля каміна, а жонка пачала гатаваць яму вячэру.

Джэк глянуў праз шчылінку і ўбачыў волата, які еў так шмат, што хлопчыку на тыдзень хапіла б. Пасля вячэры волат прынёс курыцу, пасадзіў яе на стол і сказаў:

— Кладзі яйка!

Курыца знесла яйка з чыстага золата.

У Джэка вочы на лоб палезлі. А волат, пазабаўляўшыся з курыцай, заснуў. Хроп ён так, што здавалася, недзе гарматы страляюць. Пад самую раніцу, калі сон наймацнейшы, Джэк ціхенька вылез, схапіў курыцу і пабег да бабовых драбінаў.

Вельмі хутка ён быў унізе. Маці, убачыўшы яго жывога, узрадавалася.

— Маці, — сказаў Джэк, — я прынёс нешта такое, што забяспечыць нам добрае жыццё.

Курыца знесла ім залатых яек, якія яны прадалі і пачалі жыць вельмі добра.

Некалькі месяцаў яны так жылі, але Джэк захацеў зноў пайсці да волата. Аднойчы раніцай ён залез па бабовых драбінах і прыйшоў увечары да дома волата. У дзвярах стаяла волатава жонка. Джэк пачаў маліць яе, каб тая дазволіла яму пераначаваць. Але тая сказала, што аднойчы ўжо пусціла пераначаваць беднага галоднага хлопчыка. А няўдзячны нягоднік украў у волата вельмі каштоўную рэч. З таго часу волат з ёю вельмі дрэнна абыходзіўся. Аднак хлопчык угаварыў яе, і жан-

# Сама вывучаю родную мову

У час канікул я заўсёды чытаю „Зорку". Мне вельмі прыемна хаця раз у тыдзень сустрэцца з беларускай літаратурнай мовай. Дзякуючы „Зорцы", я сама вывучаю нашу мову. Толькі нядаўна я зразумела, што пазнанне духовай спадчыны — гэта не толькі абавязак, але і вялікая прыемнасць. Мяне хвалюе, калі нехта нахабна, тысячу разоў у гадзіну пераконвае мяне, што я мушу шанаваць „нашу беларускую мову", а сам да сваіх дзяцей нават і не загаворыць на гэтай мове. Дарослым здаецца, што мы, дзеці, нічога не разумеем. І хай сабе так думаюць! Зараз я вельмі хачу вывучыць родную мову. І не для ацэнак, не; я хачу яе ведаць для самой сябе. Дапамагае мне „Зорка", якую я лічу сваёй сяброўкай. У „Зорцы" мне вельмі спадабалася апавяданне „Родная мова" Ані Тэслюк з Новага Корніна. Цяпер не магу дачакацца, калі Аня зноў нешта напіша. Наогул я чытаю ўсе допісы дзяцей. Мне вельмі радасна, што на Беласточчыне ёсць такія таленавітыя дзеці. Падабаюцца мне таксама малюнкі дзяцей. Я мару стаць удзельнікам «Сустрэч „Зоркі"». Думаю, што ёсць многа дзяцей, якія маюць такія мары.

**Эмілька Іванюк**
**VII клас, Гайнаўка**



*Дзяўчаты з Гарадка.* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

## Вершы Віктара Шведа

### Мёд у вушах

— Дарагі Андрэй —
Табе засцярога:
Не мыеш вушэй,
У іх мёду многа.

— Мёдам многа дзён
Ты карміла, мама,
І таму ўжо ён
Выходзіць вушамі.

### Адкуль паходзіць вада?

Настаўнік запытаў на ўроку
Валодзю абібока:
— Скажы ты нам, Валодзя,
Адкуль вада паходзіць?

Не мог Валодзік там адразу
Знайсці патрэбнага адказу.
Сказаў ён раптам нечакана:
— Вада паходзіць з крана.

### Яраслаў маці розум атрымаў

— Вельмі разумненькі жыве
Сынок у нашай хаце,
Мой розум мае ў галаве,
Сказала бацьку маці.

— Можа і праўда, адказаў
Бацька на прыклад яркі.
Твой розум мае Яраслаў,
Я свой нашу на карку.

### У аўтобусе

— Што цяпер за моладзь, што за моладзь!
Не выхоўвае яе належна школа.
— Наракаць у вас няма прычыны,
Месца ж вам тут уступіў хлапчына.

Выгадна расселіся ў сядзенні,
Нараканне — непаразуменне.
— Непатрэбная такая тут гамонка,
Дык стаіць жа яшчэ мая жонка.

Фальклорныя цікавінкі

# Дзяжа

Даўней у дзяжы рашчынялі цеста для прыгатавання хлеба. Цеста з малога кавалачка, быццам жывое, узрастала ўгару, расло, рыхтавалася ператварыцца ў духмяны бохан хлеба. І людзі, назіраючы рост і паўставанне хлеба, параўноўвалі яго да жыцця людзей. Таму і ставіліся да дзяжы, як да жывой істоты, з павагай.

Калі набывалі новую дзяжу, то найперш стараліся яе „задобрыць". Ставілі яе разам са старою на адну посцілку і пад адной накрыўкай на дзень. Такім чынам новая дзежа „прывыкала".

На Вербніцу дзяжу білі вярбінкай і выказвалі ёй, як і ўсім сямейнікам, пажаданні здароўя і ўраджаю. Калі дзяжу мылі, то пакідалі ў ёй частку рошчыны. Стараліся таксама не застудзіць і не спарыць дзяжу, трымалі яе ў вызначаным месцы і ніколі яе нікому не пазычалі, каб не „пакрыўдзілася".

Бывала, што хлеб у дзяжы не ўдаваўся. Тады з дзяжой абыходзіліся строга: ставілі яе на парозе ўверх дном, утыкалі ў дно нож і лілі на яе кіпень. Часам рашаліся нават „здзекавацца" над дзяжой. Калі цеста не падыходзіла, то яго адразу аддавалі свінням. Лічылі, што пасля такога абразлівага ўчынку дзяжа абавязкова „выправіцца", бо не перанясе знявагі.

Дзяжу часта выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне. Калі хварэлі дзеці, іх клалі ў дзяжу з надзеяй, што там зродзіцца жыццяздольная, гаючая сіла. Калі дзіця доўга не хадзіла і не размаўляла, яго садзілі ў дзяжу пасля таго, як выберуць цеста. Каб у дзяцей хутчэй прараслі малочныя зубы, ім давалі есці паскрэбкі з дзяжы спечаныя разам з хлебам.

Дзяжа шырока выкарыстоўвалася ў любоўнай магіі і шлюбнай абраднасці. Дзяўчаты ставілі яе на Каляды пасярод хаты, а потым заходзілі ў пакой, ідучы да дзяжы спіною. Лічылася, што тая дзяўчына, якая сядзе на дзяжу, выйдзе хутка замуж.

Вясельны пасад — гэта таксама накрытая дзяжа; там садзілі маладую. Але сесці на пасад магла толькі дзяўчына, якая захавала цнатлівасць.

Часам, калі маладая не садзілася на пасад, рабіўся скандал. Пакрыўджаны бок меў права сарваць вяселле і патрабаваць вяртання сваіх выдаткаў. Дзяўчаты верылі, што калі ашукаеш дзяжу, то можа гэта прывесці да бяздзетнасці і сямейных няшчасцяў. Таму рэдка калі рашаліся „ашукаць" дзяжу.

У вясельным абрадзе выкарыстоўвалі і века дзяжы як абрадны паднос. З пакладзенымі на века хлебам і соллю сустракалі маладых з вянца. На веку неслі і шлюбныя караваі. Звычайна пад векам дзяжы маладыя ўваходзілі ў дом. У некаторых мясцовасцях сваты ўтваралі своеасаблівую браму. На века дзяжы ставілі караваі маладой і маладога, а цераз браму гэтую пераходзілі блізкія і сваякі маладых. Гэты абрад меў за мэту з'яднаць не толькі маладых, але і іх сем'і.

**Зорка**



*Хлапчукі з Семяноўкі расказваюць „Зорцы" пра свае жыццёвыя планы.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

чына правяла яго на кухню, накарміла і схавала ў кладоўцы. Праз нейкі час прыйшоў волат, павячэраў і загадаў жонцы прынесці мяшок з золатам і серабром. Джэк праз шчыліну бачыў, як волат пералічыў свой скарб, акуратна склаў у мяшкі і, стаміўшыся, заснуў.Ціхенька-ціхенька вылез Джэк са сваёй схованкі, але тут забрахаў маленькі сабачка, які ляжаў пад крэслам. Волат аднак не прачнуўся, і сабака змоўк. Джэк схапіў мяшкі, пабег прэч і хутка ўжо быў ля бабовых драбінаў. Дома яго чакаў непрыемны сюрпрыз: маці цяжка захварэла і амаль памірала. Але толькі яна даведалася, што сын вярнуўся дадому жывы і здаровы, хуценька паправілася.

Маці заўважыла, што Джэка нешта турбуе і хацела даведацца што. Але хлопец баяўся расказаць ёй, ведаючы, што можа здарыцца. Таму ён змагаўся з жаданнем зноў пайсці да волата.

Але аднойчы Джэк прачнуўся раніцай і палез наверх. Увечары ён быў ля дома волата, у дзвярах якога стаяла волатава жонка. Джэк спецыяльна апрануўся па-іншаму і крыху змяніў знешнасць, таму яна зусім не пазнала яго. А вось угаварыць яе, каб пусціла пераначаваць, аказалася вельмі цяжка. Аднак нарэшце яна пусціла яго і схавала ў медны кацёл.

Прыйшоўшы, волат панюхаў паветра і сказаў:

— Жонка! Я чую пах свежага мяса!

— Дарагі, гэта, пэўна, людзі ў астрогу.

Волат быў супакоіўся, але раптам падхапіўся і пачаў абшукваць пакой. Джэк, які спачатку быў спакойны, перапалохаўся да смерці. А калі волат узяўся за накрыўку катла, Джэк вырашыў, што прыйшоў яго канец. Але на шчасце волат не стаў здымаць накрыўку, а сеў за стол ля каміна.

Скончыўшы вячэраць, волат загадаў жонцы прынесці ягоную ліру. Джэк выглянуў з-пад накрыўкі і ўбачыў найпрыгажэйшую ліру. Жонка паставіла не стол перад волатам, і той сказаў:

— Грай.

Тая зайграла цудоўную мелодыю. Джэку, вядома ж, захацелася мець гэтую ліру.

Волат пад музыку ў хуткім часе заснуў. Джэк вылез з катла і схапіў ліру. Але тая голасна запела:

— Гаспадар! Гаспадар!

Волат прачнуўся і пабег за Джэкам, але за вячэрай ён надта многа выпіў і таму ўпаў праз два крокі. Джэк жа пабег з усіх ног. Але волат хутка падняўся і павольна пайшоў за ім, а потым і пабег.

Як толькі Джэк спусціўся ўніз па бабовай сцябліне, ён схапіў сякеру і пачаў секчы боб. Волат якраз дабег да яго і ўжо спускаўся, калі Джэк адсёк карані. Волат упаў у сад і разбіўся ўшчэнт.

Джэк папрасіў маці даравáць яму былыя паводзіны і сказаў, што надалей будзе паслухмяным сынам. Слова ён стрымаў і ўсё астатняе жыццё быў прыкладам для іншых хлопцаў.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

# Фэст у Нарве

28 ліпеня ў яркіх прамянях летняга гарачага сонца на стадыёне ў Нарве адбыўся чарговы мнагалюдны беларускі народны фэст, арганізаваны ГП БГКТ.

Мерапрыемства адкрыў войт Нараўскай гміны Ян Іванюк, які прывітаў пасла ў Сейм Рэчы Паспалітай Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву з жонкаю.

Да сяткавання далучылі таксама ўдзельнікі байдарачнага паходу, якія пад кіраўніцтвам Славаміра Галіцкага, упаўнаважанага Беластоцкага ваяводы па справах нацыянальных меншасцей, прыплылі ракою Нарвай з Бандарова.

З прамовай, прысвечанай саракагоддзю дзейнасці БГКТ, выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі.

Праграму вяла Валянціна Ласкевіч, якая ва ўступе сардэчна падзякавала спонсарам — войту Нараўскай гміны Яну Іванюку, уласніку суполкі „Пронар" Сяргею Мартынюку і Сельскагаспадарчаму кааператыву „Рольмак" з Макаўкі — за дапамогу арганізатарам мерапрыемства.

На фэсце чаргова выступілі:

— фальклорны калектыў „Стаклосы" з Варшавы, пад мастацкім кіраўніцтвам Магдалены Сьвідэрэк;

— калектыў з суполкі „Пронар", пад мастацкім кіраўніцтвам Ежы Томзіка. Варта прыгадаць, што гэты калектыў выконвае таксама і беларускія песні. Прысутным асабліва падабалася песня „Ай, люлі" ў выкананні Басі Сегень, лаўрэаткі першай узнагароды ў дзіцячым беларускім песенным конкурсе;

— мастацкі калектыў „Тыневічанкі" з Тыневіч з акампаніятарам Сямёнам Карнілюком;

— надзвычай цікавы вакальна-інструментальны калектыў „Чарамшына" з Чаромхі, пад таленавітым кіраўніцтвам Басі Козуб з Чаромхаўскага дома культуры;

— хор БГКТ з Беластока;

— калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, пад кіраўніцтвам Валянціны Грыка;

— вакальна-інструментальны калектыў з „Пронару", пад кіраўніцтвам Генадзя Шэмета.

Пасля фэсту адбыліся спаборніцтвы мясцовай пажарнай каманды і танцавальны вечар для моладзі.



*Адкрыў святліцу солтыс Трывежы Кастусь Салавянюк.*



*Калектыў „Тыневічанкі" з акампаніятарам Сямёнам Карнілюком.*

# ...і ў Трывежы

Фэст у Трывежы, што ў Гайнаўскай гміне, быў спалучаны з урачыстым адкрыццём пабудаванага грамадскім пачынам вясковага дома культуры.

Мерапрыемства адкрыла войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч. Падзякавала яна сардэчна жыхарам Трывежы за пабудову гэтага цікавага аб'екта, у якім павінна весціся шырокая грамадска-культурная праца. Прывітала яна прыбыўшых гасцей — генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку праф. Міхаіла Слямнёва з жонкаю, пасла у Сейм Рэчы Паспалітай Станіслава Малішэўскага і Сяргея Плеву з жонкаю, дырэктара Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку Казімежа Максімільяна Дэркоўскага з жонкаю, бурмістра Гайнаўкі Ядвігу Рудзінскую-Патэюк.

Адкрыў святліцу, ўрачыста перарэзваючы стужку, солтыс вёскі Трывежа і адначасова радны гміны ў Гайнаўцы Кастусь Салавянюк.

Высвяціў святліцу а. Георгій Кос з Ласінкі.

Валянціна Ласкевіч, як заўсёды, павяла праграму. Выступілі чаргова: хор БГКТ з Беластока, „Тыневічанкі" з Тыневіч, вакальна-інструментальны калектыў „Ада" з Беластока, „Чарамшына" з Чаромхі і калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова.

Так як і ў Нарве свае кніжкі падпісвалі беларускія пісьменнікі Янка Целушэцкі і Віктар Швед. Прадаваліся тут таксама касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў з Беласточчыны і выданні БГКТ.

Пасля заканчэння запланаванай праграмы запрошаных гасцей пасадзілі за загадзя падрыхтаваны стол у новаадкрытай святліцы, за якім адбыўся багаты прыём.

Членаў мастацкіх калектываў пачаставалі на панадворку бігасам.

**В. Ш.**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*

# НАШЫ КАРАНІ

**ХС. Спрадвечнае**

Заснаванне Свята-Мікалаеўскага манастыра ў Бельску прынята адносіць да часоў дзейнасці на беларускіх землях вялікай княгіні Галены Іванаўны (1495—1513), дачкі вялікага князя Маскоўскага Івана III Васілевіча і жонкі вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра Ягелончыка. Аднак ёсць падставы меркаваць, што гэтая абіцель была заснавана значна раней, сведчыць пра тое хаця б і той факт, што першым ігуменам Супрасльскага манастыра, заснаванага ў 1498 годзе, быў айцец Пафнуцій, старац з Бельскага манастыра. Ён, відаць, сваім доўгагадовым бездакорным паслушаннем вылучаўся сярод бельскай брацій. Княгіня Галена атрымала ва ўладанне Бельск, Бранск, Сураж з навакольнымі землямі пасля смерці мужа (1506 г.), значыць, можна з упэўненасцю сказаць, што не яна была заснавальніцай Свята-Мікалаеўскага манастыра ў Бельску, хутчэй за ўсё стала ягонай абнавіцелькай і шчодрай апякункай.

Свята-Мікалаеўскі манастыр быў невялікім, але глыбока шанаваным праваслаўнай грамадскасцю. Відаць, ад пачатку свайго існавання яго даволі шчодра надзялілі зямлёй, таксама пазней княгіня Галена не прамінула ўзмоцніць абіцель духова і матэрыяльна, дакінуў і апошні з Ягелонаў, Жыгмунт Аўгуст актам ад 16.12.1560 г. дзве валокі ў Стрыках. Гэта дазволіла манастыру заснаваць і весці на высокім узроўні школу, у якой вучыліся не толькі праваслаўныя, але і дзеці іншых веравызнанняў, саргaнізаваць шпіталь (прытулак) для бяздомных і бедных.

Маленні за грахі гэтага свету, выхаванне і навучанне ў духу праваслаўя, міласэрная апека над няшчаснымі і штодзённая праца дзеля пражыцця самім і дапамогі патрабуючым — гэтаму прысвячала манаская брацтва ўвесь свой час і сілы.

Мірнае духоўнае жыццё манастыра парушыла люблінская унія (1569), як Падляшша было захоплена і далучана да Польшчы, а затым падрыхтоўка да берасцейскай уніі, калі ўжо пачаліся адкрытыя атакі на праваслаўнае насельніцтва і нават яго пагромы з боку каталіцкіх фанатыкаў. Пасля берасцейскіх сабораў (праваслаўнага і уніяцкага 1596 г.) толькі ігумен Серафім і манах Рыгор прызналі ўладу уніяцкага біскупа Іпація Пацея, а ўся іншая брацiя засталася вернай праваслаўю. А калі уніяты па ўсёй Беларусі і Украіне пачалі сілай ці хітрасцю займаць праваслаўныя храмы і манастыры ды гвалтам і пабоямі выганяць з іх тое духавенства і манахаў, якія не пажадалі здрадзіць бацькоўскую веру ды перайсці ва унію, Свята-Мікалаеўскі бельскі манастыр насцеж адчыніў свае дзверы перад выгнанцамі і паслужыў ім прыстанішчам. Гэта яшчэ болей павысіла ўзровень духовага жыцця ў манастыры і ў асяроддзі праваслаўных бяльшчан. Ён сваёй душпастырскай, асветніцкай і гуманітарнай дзейнасцю праменіў на тэрыторыю, сягаючую далёка па-за сённяшнюю Беласточчыну, асабліва калі уніяты захапілі Супрасльскую лаўру (1609), гарадзенскія і іншыя манастыры.

Вядома, уніяты, іхнія духовыя і палітычныя кіраўнікі і памагатыя аніяк не хацелі пагадзіцца з дзейнасцю такога моцнага і актыўнага цэнтра праваслаўя. Яны ўсялякімі спосабамі намагаліся захапіць Свята-Мікалаеўскі манастыр, або прынамсі яго знішчыць. Урэшце ім удалося нацкаваць уніятаў і каталікоў і тыя захапілі Свята-Мікалаеўскую царкву, а калі каралеўская камісія вярнула яе праваслаўным, яны не падпарадкаваліся яе загадам і, узброіўшыся, напалі на манастыр, зняважылі, збілі і ўкінулі ў турму ігумена. Толькі пратэсты луцкага праваслаўнага епіскапа Афанасія і падляшскай шляхты ў самога караля прымусілі вярнуць царкву і вызваліць манастыр. Але зацішша трывала нядоўга.

„13 сакавіка 1645 г. у манастыр уварвалася група ўзброеных мяшчан на чале з бургамістрам Каспрам Блядоўскім і уніяцкімі ксяндзамі, — пішуць а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік у даследаванні „Гісторыя Царквы ў Бельску-Падляшскім". — Ускочыўшы ў царкву, натоўп кінуўся распраўляцца з манахамі і праваслаўнымі мяшчанамі, што абаранялі манастыр. Адзін манах, а. Гедэон Пашкевіч гэтак апісваў тую драму: „... не зважаючы на боязь Божую, ні на суровасць права, за валасы па магільніку цягалі, збівалі па тварах, кіямі, абухамі білі пратэстуючых і іншых многіх мяшчан на цвінтары і самы цвінтар закрывавілі". Апрача таго абрабавалі царкву і манастыр, а што не змаглі ўзяць, тое знішчылі.

І гэтак амаль дзвесце гадоў з невялікімі передышкамі уніяты з католікамі атакавалі Свята-Мікалаеўскі манастыр: выганялі манахаў, білі іх смяротнымі пабоямі на вуліцы, забаранялі праваслаўнаму духавенству хадзіць з хросным ходам, адпраўляць набажэнствы і праводзіць набожчыкаў. Аднак праваслаўныя не здаваліся: неймаверными намаганнямі і коштамі дабіваліся справядлівасці ў судах, перад рознымі камісіямі і нават каралямі, адбудавалі спаленую царкву, павялічылі манастыр. На змену адыходзячым у вечнасць айцам-змагарам прыходзілі маладыя падзвіжнікі, пераймалі ад іх пакутны крыж і неслі яго ў наступныя дзесяцігоддзі без ніякай надзеі на палёгку, спадзеючыся толькі на Госпада і ведучы за сабою свецкую праваслаўную грамадскасць. І пратрывалі, і не дазволілі затаптаць сваю веру.

Бельскі Свята-Мікалаеўскі манастыр у XVII—XVIII ст. ст. стаў вядучым у нашым рэгіёне, апорай для праваслаўных манастыроў Бярэсця, Яблачына, Драгічына. У ім яны знаходзілі духовую, а часта і матэрыяльную падтрымку. Яго ігумен а. Сава Пальмоўскі ў 1791 г. быў выбраны старшынёю Найвышэйшай Праваслаўнай Кансісторыі, якая кіравала усімі справамі праваслаўнай Царквы ва ўсёй тагачаснай Рэчы Паспалітай.

Варта напомніць, што Свята-Мікалаеўскі манастыр і яго царква сталі там, дзе сёння бельскія беларускія школы, значыць, стаяць яны на спрадвечна святым і родным.

**Мікола ГАЙДУК**

# Людзі як дровы ляжалі

**Пра бежанства і пазнейшыя падзеі апавядае Андрэй КУЧКА, жыхар Гацькоў, 1910 года нараджэння.**

Пяць гадоў мне было, як падаліся ў бежанства. Да Баранавіч ехалі фурамі, а ў Баранавічах пагрузілі нас на поезд і завезлі аж у Саратаўскую губерню, у Аляксандраў Гай. Поездам ехалі разам з дабыткам, у таварным вагоне. Везлі двое коней, карову, авечкі. Сілкаваліся сухім правіянтам, які куплялі на станцыях. Праз Волгу ў Саратаве перавезлі нас параходам: Саратаў, гэта вельмі прыгожы горад — на ўзгорку стаіць. Аляксандраў Гай быў вялікім сялом, большым за наш Бельск: тры царквы там былі. Людзі там жылі вельмі багата; а якія добрыя былі! Мы, як заехалі, то нас завезлі ў школу, каб часова некалькі сем'яў памесціць. І як сталі нам несці ежу, то завалілі ёю нас! Пасля ўзяў нас адзін гаспадар, меў ён дзве хаты, у адной сам жыў, а ў другой мы. Калі мая сястра пайшла ў школу, то і я за ёю. І хаця яшчэ не меў гадоў, то мяне прынялі. Хадзіў там у школу тры гады. Бацьку на якісь час у армію ўзялі, служыў у Царыцыне. На вайне не быў, як стала рэвалюцыя, да нас вярнуўся. Пасля арміі хадзіў на працу ў фірму, якая называлася *Алгемба*, а мама была з намі дома: варыла нам есці. Было нас чацвёра дзяцей, а да таго дзед з бабай. Давалі нам правіянт за паўцаны. Там нам вельмі добра было і мы б не вярталіся, але як стаў камунізм, стала галадоўка, сталі хадзіць і шукаць, дзе хто што мае, то мусілі ехаць. Зракліся тае *Алгембы*, бо ўсюды быў крызіс. Там людзей білі, што як дровы ляжалі. Прыходзяць і пытаюць, за кім ты. То як не па думцы адкажаш, то адразу пісталет, і ўсё. Скандал там быў вялікі, многа людзей пабілі. Нас гэта мінала, бо гаспадары нашы ў палітыку не ўмешваліся. З Аляксандравага Гаю дзве тысячы кіламетраў ехалі фурамі дадому. Дабыткаў, што ўзялі з сабою, назад прыгналі: двое коней, карову і дзве ці тры авечкі. Нас адтуль ехала тры ці чатыры сям'і з Гацькоў, ехалі з Праневіч, з Арэхвіч. Ехалі мы праз Тамбоў, Арол, Бранск. Мы везлі правіянт і мусілі з ім хавацца. А правіянт той мелі адтуль, бо як тата рабіў, то накуплялі пшаніцы і па дарозе мукі намалолі. Заходзілі ў хаты і там хлеб у печах пяклі. На начлег аднак не заходзілі, начавалі каля фураў. Праехаць удалося нам шчасліва, ніхто на нас не нападаў. Як праз Бранскія лясы ехалі, то там такі багаты лес быў: грыбоў, малін, ягад усялякіх... То мы там два тыдні стаялі. І як навесну 1922 года з Аляксандравага Гаю выехалі, то на восень прыехалі. Таго правіянту, што мы мелі, хапіла на дарогу, крыху яшчэ і з сабою прывезлі.



Хаты нашае ўжо не было, спалена была. Хто спаліў? Вайна спаліла! Жылі ў суседавай, што не вярнуўся, хаце, а пасля трох гадоў сваю пабудавалі. А тут усё наша пазарастала лесам, трэба было выкарчоўваць, вырабляць. Хадзіў я ў школу, у Гацьках школа была, пяць гадоў хадзіў. Хадзіў з першага класа; тое, што ў Расеі вывучыў, не лічылася. Таксама цяжка было; бацька мусіў настаўніку якіесь гасцінцы даваць, каб мяне звальняў бядла пасвіць. *Калейкай* калісь не пасвілі, кожны пасвіў сваё. Пасля школы хадзіў на *заробкі*; усюды хадзіў, два гады ў тартаку ў Страблі працаваў, хадзіў пехатою. А як прыйшлі саветы, то зарганізавалі ў Гацьках *калхоз*, паставілі мяне брыгадзірам. За добрыя паводзіны на дзесяць дзён у Маскву на экскурсію з'ездзіў. Саветы ўзялі мяне ў армію, бо ў польскім войску я не служыў. Забралі мяне ў Прасяніцу, каля Астровi-Мазавецкай. А як выбухла вайна, то папаў у палон у Камарова. Быў там можа з месяц і ўдалося ўцячы і прыйсці дадому. Праз усю вайну дома быў.

У Плютычах войска нямецкае стаяла. Партызанка была таксама — саветы там хадзілі, нашых не было. Аднойчы тыя немцы злапалі каля Гацькоў двух партызан і хацелі нашу вёску спаліць. Павыганялі нас усіх з хатаў, але ехала *таксоўка*, а ў ёй якісь вышэйшы афіцэр, затрымаўся, штось там яны гаварылі-гаварылі і сказалі, каб расходзіліся па хатах. Было гэта яшчэ перад Райскам. Пасля, як фронт надходзіў, то мы ў лес паўцякалі, там двое ці трое сутак сядзелі, а пасля выехалі ў Стацэвічы і там прабывалі пакуль фронт прайшоў і толькі тады вярнуліся дадому.

Пасля вайны зноў у Гацьках *калхоз* зрабілі: усе да яго належалі, бо як толькі адны прыступілі, то другія ўжо мусілі. І я зноў стаў брыгадзірам. Толькі як Гамулка прыйшоў, то *калхоз* распаўся. Гамулка з *калхозаў* не выганяў, партыя падтрымоўвала іх, але людзі самі паўцякалі. Перамералі зямлю, што ў калгас сцалілі, і вярнулі ўсім. У мяне было 36 участкаў, усе на гацькаўскім. Пазней зрабілі камасацыю, даволі добра, бо сварак не было. Сваю зямлю абрабляў конямі, машын не меў. Купіў быў толькі касілку, якая і яшчэ стаіць. Пасля *калхоза* нідзе на працу не наймаўся, рабіў толькі гаспадарку, якую здаў дваццаць гадоў таму. Аставілі мне *дзялку*, але і тае ўжо не раблю. Трымаем толькі некалькі курак, і толькі. Нам жа ўжо па 86 гадоў. Нашы чацвёра дзяцей паканчалі школы і ў Беластоку жывуць: маюць свае *блёкі*, самаходы. Кожную суботу нас наведваюць.

*Запісаў і сфатаграфаваў*
**Аляксандр Вярбіцкі**

# На Яна ў Апацы

Вёска Апака-Вялікая знаходзіцца, можна сказаць, на канцы свету. Абапёршыся аб мяжу з Беларуссю, раскінулася яна на пагорку сярод лугоў і пералескаў. Яе жыхары 7 ліпеня ў сваім храме ўшаноўваюць памяць св. Яна Хрысціцеля. Да роднай вёскі маёй цешчы дабіраліся мы па гравейцы з напрамку Чаромхі і Войнаўкі. Мой сын засумаваў, калі каля царквы не пабачыў ларкоў з цацкамі. Прыехалі мы ранавата, перад багаслужбай. Ідзем наведаць магілы прадзедаў.

Да царквы з усіх бакоў з'язджаюцца машыны, спяшаюць пешаходы. Пачалася багаслужба, якую ўзначальвае настаяцель Вэрстоцкага прыхода, якому належыць і Апака. Маленькі храм напаўняецца вернікамі, спявае хор з трох вясковых жанчын, гараць свечкі. Услухоўваюся ў мелодыку малітвы, паддаюся святочнаму настрою. Адчуваю сябе праваслаўным, лічу гэты лапік прыпушчанскай зямлі маіх продкаў таксама сваёй зямлёй... З задуменнасці вырывае мяне пранізваючы цела жар. У царкве душна: тлум вернікаў, палаючыя свечкі, летняя спёка застаўляюць выйсці на паветра. Ля ўваходнай брамы мужчыны абменьваюцца палітычнымі меркаваннямі, каментуюць склаўшуюся сітуацыю.

Пасля кароткай прагулкі па лесе вяртаемся ў храм. Людна. Бачу знаёмыя твары. Зноў малітва... Душна... Свечкі выгінаюцца на падсвечніках, падаюць, нехта тушыць некалькі агаркаў. Разглядаюся тайком і бачу пераважна старых людзей, нямнога маладых і трохі дзяцей. Малюткі час ад часу ўчыняюць шум, перашкаджаюць у малітве. Зноў становіцца душна і сын просіць выйсці на двор.

Неўзабаве пачаўся хрэсны ход. Далучаемся да шэсця. Людзі нясуць букеты зёлак для асвячэння. Ідзем па не надта акуратна прыбраным пляцы. Поўна тут дробных галінак бярозы, аб якія спатыкаюцца ўдзельнікі шэсця. Ці сапраўды не было каму прыбраць вакол царквы? А што тады будзе праз некалькі гадоў?

Пасля багаслужбы цешчыны сваякі запрашаюць нас у госці. Едзем па парослай зялёнай травой брукаванай вуліцы. На большасці панадворкаў стаяць аўтамашыны гасцей. Відаць і пакінутыя, занядбаныя сядзібы. На ліхтарным слупе высіцца буслінае гняздо, прыгожа цвітуць раскідзістыя ліпы. Трапляем на панадворак прадзедаў. З'ехаліся сюды госці з Беластока, Чаромхі і Гайнаўкі. На стале з'яўляюцца смачныя стравы і, вядома, „Русская водка". Пасля чарговай чаркі атмасфера становіцца больш сямейнай. Гутарым аб рабоце, маладосці, цяжкай долі селяніна, раздумваем аб прамінанні і ўспамінаем непрысутных.

Вечар — пара ад'езду. Абменьваемся адрасамі і нумарамі тэлефонаў, дамаўляемся на чарговыя сямейныя сустрэчы. І калі госці раз'ехаліся, Апака-Вялікая, наперакор сваёй назве, зноў стала малой захалуснай вёскай. Калісь была тут школа і крама, а цяпер засталося ўсяго некалькі дамоў састарэлых землеробаў. Відаць, час такі прыйшоў! **Славамір Кулік**

# Кляшчэлеўскі архімандрыт

Вялікім „малітвеннікам" славіўся на Падляшшы айцец Уладзімір Кудраўцаў, якога няпоўную біяграфію апублікаваў „Przegląd Prawosławny" (nr 6/1996), бо толькі са снежня 1939 г. да 1943 г. Паколькі я быў блізка яго, мне і выпадае запоўніць гэты прабел.

Першы раз а. Уладзіміра пабачыў я пасля цуду ад 9 красавіка 1934 г. з плачучай Маці Божай на „галгофе" у пружанскім саборы св. Аляксандра Неўскага, калі тысячы пілігрымаў з усіх бакоў ішлі пакланіцца Mater Dolorosa і прасіць у яе вялікіх ласк. Ішлі яны хрэсным ходам, а на іх прывітанне радасна білі царкоўныя званы. Вось людзі мне, школьніку, кажуць: „Ад Белавежы шашой (43 кіламетры) ідзе народ з Кляшчэляў". Выйшаў я перад горад і бачу, што так яно і ёсць: мужыкі нясуць харугвы, а наперадзе крочаць прысадзістыя шэравокі святар з крыжам і... рускімі ваеннымі ордэнамі на каляровых стужках.

Пачалася II сусветная вайна. Святары з Пружан кудысьці выехалі і тут жа паявіўся а. Уладзімір, але не прыйшлося яму быць святаром у саборы, бо інтрыгай узяў ключы ад царквы якісь іераманах з бясформенным тварам. Калі прыйшлі гітлераўцы, то яго расстралялі. Айцец Уладзімір падаўся ў другую, Прачысценскую царкву ў Пружанах, якая мела мала прыхаджан, і служыў там літургію кожны дзень. Часам я там быў яму прыслужнікам. Аднойчы ён быў у нашай хаце на абедзе. Тады ён прадказаў, што ніхто з нашай сям'і не памрэ раптоўнай смерцю. Гэта пакуль што збылося. Гаварлівы ён не быў, ды на яговых казаннях не плакалі „наўзрыд". Але з яго маўклівасці біла сіла характару.

Доўга ў Пружанах ён не пабыў: падаўся на захад. Сорамна мне, што забыў я назву вёскі, дзе ён стаў прыхадскім святаром, хаця я там спецыяльна сам адзін праз Белавежу і Гайнаўку паехаў чыгункай. Ні то Рагачы, ні то Жэрчычы, ні то Мілейчычы. Была імша, пасля якой пасядзелі мы разам перад царквою ды пагутарылі. Тады ён мне сказаў, што паедзе ў Жыровіцкі манастыр і стане архімандрытам, каб там і быць пахаваным. Тады я пачуў пра яговыя ваенныя подзвігі на фронце ў першую сусветную вайну. Гэта не жарт быць сем разоў раненым і чатыры разы кантужаным! Таму ў часе вячэрні ён ужо не стаяў перад прастолам, але сядзеў на крэсле за іканастасам.

У 1940 годзе я не вытрымаў, калі ў нашу хату прыйшоў стары пружанец Гомшэй і сказаў, што чуе блізкую смерць і хоча паспавядацца ў айца Уладзіміра, да якога пойдзе пехатой праз Белавежскую пушчу. Папрасіў я яго шчыра і ён, неахвотна, згадзіўся ўзяць мяне. Мэтай гэтым разам былі ўжо Кляшчэлі. Ішлі мы праз Шарашоў ды паўднёвай часткай пушчы. Дайшлі, амаль нічога не еўшы, якраз на нядзелю і пасля службы наведалі а. Уладзіміра, які быў ужо вельмі бледнатвары. Сам ён нам сказаў, што мучыць яго „грудная жаба", значыцца, хвароба сэрца. Вярнуліся мы тады з Кляшчэляў цераз Белавежу і Сухопаль дадому з нейкай радасцю ў душы.

У а. Уладзіміра, а пасля ўжо манаха Серафіма (Кудраўцава), была дачка Людміла. Яна нешчасліва выйшла за вялічэзнага святара, які хутка пасля вясселля памёр. Кажуць, яна жыла ў Кляшчэлях. Шкада, што так позна апамяталіся нашы гісторыкі, бо ў яе можна было б узяць больш інфармацый і фатаграфій.

Манахі з Жыровіцкага манастыра прыязджалі ў 1992 годзе на Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўку. Бывалі і ў Рыбалах. Ад іх можна даведацца пра дэталі апошніх хвілін архімандрыта Серафіма і дазнацца, як выглядае ягоная магілка. Калі ён не пахаваны пад царквой, то можа зрабіць адпаведны надпіс на яго надмагільнай пліце? Ці ж чалавек, які стаў адначасна ваенным і духоўным героем, не заслугоўвае на большую ўвагу? Другога такога ў Польшчы не было дагэтуль. Калі ў Гайнаўцы ёсць вуліца а. Дзевятоўскага, то ў Кляшчэлях павінна быць вуліца Кудраўцава. Вечная яму памяць!

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Сучаснасць мяняе норавы

*(быль)*

I не ведала б Нюра, што ў недалёкай гміне існуе Сенік, які ён, колькі ў яго ўсяго ёсць, калі б не стала ўдавою. Яшчэ папраўдзе не нажылiся добра з Жорам, а ўжо ўсяго хапіла. Дзяцей пагадавалі, дзядамі сталі. Лягчэй ужо быццам стала Нюры — стары як бы супакоіўся, пасталеў, кінуў дурэць і п'янстваваць, ды ўзяў ды кіпнуў. Адпіў за сваё жыццё вантробы, развярэдзіў сваё сэрца ды нервы ўсёй радзіне. Найбольш зведала ўсяго, вядома, Нюра. Колькі слёз праліла, колькі прастагнала-праенчала, чакаючы з дзіцяткам ля грудзі, калі Жора вернецца з вясёлай кампаніі, або шукаючы яго па ўсёй ваколіцы, валакучы мужа з-пад платоў... Працаваў, не скажаш, Жора, рабіў усё шчыра, і ўмеў колькі — і дом паставіць, і печ зляпіць, і каня падкаваць, вылечыць ад ахваткі, і свінчо закалоць, асвяжыць як сапраўдны мяснік. Расло яму ў полі і хляве. Але што з таго, калі ўсё праліваў на гарэлку! Вядома, пачало ўсё сыпацца, валіцца тое, што сабе паставіў, поле адзячвалася мізэрным плёнам. Якраз дзеці пайшлі вучыцца ў горад. Нюра, не шукаючы нідзе дапамогі, не плачучы па камітэтах, давяла іх да выхаду ў дарослае жыццё — Юрка скончыў *завадоўку*, пайшоў на працу слесарам, Міхась, працуючы, закончыў вячэрні тэхнікум, Ганя ліцэй выдатніцай пакінула, на студыі дасталася, паехала вучыцца за мяжу. Жора не пытаўся, адкуль жонка бярэ грошы. А яна бегла з амаль кожным яйкам у краму (сама месяцамі не каштавала яечні), збірала смятану, біла масла, цадзіла сыры, вазіла прадаваць. Ні грыба, ні ягадкі не ўпусціла, ні лекавай раслінкі. У вёсцы ніхто кепскага слова пра Нюру сказаць не мог, можа толькі мужыкі, калі брахала на дзінатуршчыкаў, а найбольш на гандляроў гарэлкай і „рускім спіртам", выпівохі найбольшыя, рагаталі: „Дзяўгай, дзяўгай, цюцька, заробіш ад Жоржыка зноў фанар пад вокам!" На мужа таксама рэдка хто калі злое слова сказаў: піў ён жа сваё, жонку на вуліцы за кудлы не цягаў, з нікім не судзіўся, не біўся за мяжу, хіба што часам з-за палітыкі яго жылаватая магутная рука ламатнула ў стол або ў чэрап ідэалагічна іншага субяседніка, паясняючы Жораву дыялектыку.

Не ў час абое, Жора і Нюра, пасівелі, але глядзеліся молада — ён поўны, румяны, яна хударлявая з твару, але не маршчыністая, тоненькая ў стане, грудастая, як маладзіца.

Жорж памёр у шпіталі, раптоўна. Аслаб у Гайнаўцы на вуліцы. Толькі кропельніцу падключылі, як сэрца затрымалася. Аджыў сваё, адпіў. Паглядзелі лекары ў Жорава нутро — а там і не было б чаго ратаваць. А ўсім раней гаварыў, што нікацін ды гарэлка кансервуюць чалавека! На пахаванні суседкі лічылі кожную ўдавіную слязу, каментавалі зараз за парогам, пасля мярлін, што Нюра плакала не зашмат. Калісьці на пахаванні было на што дзівіцца — удовы кідаліся ўдол на труну, рвалі на сабе адзенне, валасы з галавы, млелі, дзеці галасілі нясвоім голасам. „Жыў-жыў-і-няма!!!" — лямантаваў звон над царквою, калаціў сваім сэрцам паветра, біў у свае бяздушнаметалёвыя бакі, шкадаваў Жору, як усіх, якіх шторах часцей праводзіў у апошнюю дарогу. Анюта глядзела на званіцу, на цёмнае цела звана, хістаючагася ў прасветах вежы, і думала: „Во хто вечны, прынамсі, больш гадоў пабомкае, чым чалавек. Бо з металу ён. А дай яму лёс зваліцца з вежы, і разваліцца і ён таксама. Не назвонішся, калі лёс не дасць..."

Не паспела Нюра звыкнуцца з удавіным лёсам, як на яе ціхі падворак у засені разгалістых клёнаў пачалі з'язджацца сваты. З такіх вёсак, прасёлкаў, хутароў, якіх існавання нават не падазравала, а назвы якіх у чужой гаворцы гучалі нейк смешна і незвычайна. Думала ўжо жыццё ў самоце закончыць. Вядома, бабуль столькі па вёсках адзінокіх жыве, адзін старэча на пяць-шэсць удавіц, а бабуля, бывае, нават і сотню на сваіх нагах перакрочыць. Трапляліся Нюры нават досыць цікавыя залётнікі, дзядулі непітушчыя, як самі казалі, з добрай рэнтай, да таго з садком, з пчоламі сваімі, з хатай з вадой, з тэлефонам. Найбольш прыглядзеўся Нюры Сенік. Быў ён у нечым нават падобны на пакойнага Жору — каржакаваты, мяккацелы, румяны, з густым рудаватым чубам над пукатым лобам. Яшчэ гаспадарыў, бо і нестары, а пахаваў ужо другую жонку. Дзяцей у Сеніка не было — дай Божа, да Нюрчыных будзе добры. I той тэлефон у яго хаце ёсць, і ўсё ў хаце, як у горадзе. Цераз вёску аўтобус ездзіць, а ў Сеніка і свая *таксоўка* (праўда, „Трабант", але ўсё ж — аўто...)

Паехала Нюра ў агляды, узяла з сабою суседку Марысю, каб людзі не гаварылі. Марыся была ў захапленні — вось дык трапляецца Нюры партыя! Расчырванеўся Сенік, забегаў па падворку, выскачыў з хаты ў святочным адзенні, завёў свой „Трабант", што стаяў ля студні ў траве да паўкола, і папёр у краму за пачастункам, хаця ў халадзільніку было ўсё, каб палюдску прыняць гасцей. Кабеты селі за сталом у кухні, пазіралі цераз акно — на вуліцу вылегла ці не ўся вёска, каб паглядзець на Сенікаву нарачоную. А яго штосьці даўгавата не было, папёр, пэўна, у Гайнаўку, быццам у мясцовай краме не было таго, каб як найлепш прыняць такіх гасцей.

Урэзалі сабе Нюра з Марысяй хлеба ды шынкі, закіпяцілі ў электрычным чайніку ваду на гарбату, уключылі відэа (Нюра разбіралася досыць добра ў гарадской тэхніцы, бо ейны Юрка меў відзік), ды ахнулі — на экране клубавала голая пара — чорны як смала негр ды хударлявая дзеўка ў чорных пантофлях. Плюнула Нюра, шчаўкнула выключальнікам.

— Алё, то пані Анна? — прагучаў у трубцы шэрага тэлефона з дыскам без лічбаў жаночы голас.

— Ага.

— Пані, уцікайтэ з сіетого дому!

— Чаго вам ад мане трэбо?

— Нас тут штыры звоніт до вас! Утікай, як нэ хочэш быті трэтёю его офярою!

Нюра войкнула, схапілася за сэрца.

— Марысё, гэты Сенік то забойца, кажут суседкі! Божа мой!

Марыся прыткнула трубку да свайго глухаватага вуха.

— А як жэ вуон іх усіх пазабіваў?..

— Ох, коб вы бачылі, што вуон з бабамі вычворае! Баба раком по хаті ходіт, а то і в город зажанэ іе, ночамі спаті людям нэ дае! У біелы дэнь посэрэд лонкі в копіцю тягнэ!..

— Алё! Ад рака яго жанкі памэрлі? Так кажэцэ? Я кепско чую...

Дрыжачаю рукою Нюра выхапіла трубку ў Марысі.

— Вуон тут нам каждуй обіцяв жэнітісе, але мы, о, зобралісе і постановілі, што што як што, але жыті по-божому трэба. Ратуйтэсе і вы, пані Аню. Мы чулі, што вы такая веруюча. Плюньтэ на того старого чорта!

Пакуль Сенік вярнуўся з поўным багажнікам ласункаў, якіх хапіла б, каб прыняць з тузін гасцей, бабуль ужо і след прастыў. Не чакалі яны аўтобуса ў К., пайшлі ў другую вёску. Сенікаў „Трабант" бачылі — схаваліся ў кусты ля дарогі.

— Ой, як добрэ, што так *успулчэсно* цяпэр па нашых вёсках, — прашаптала Марыся. — Каб ні той тэлефон у хаці, то трапіла б ты, Нюрачка, у пазурыэ забойцы і *збачэнца*! Такіе зычлівые, сумленные тут кабеты!

— Але ж і бабска салідарнасць мае ўсё ж свае межы, — заўважыла Нюра, вылазячы з кустоў на шашу.

**Міра Лукша**

# Куды ідуць людзі?

Калі паглядзець і паслухаць, што дзеецца на свеце, то не раз падумаеш: куды ідуць людзі?

Паўсюдна сустракаемся з ашуканствам і грубіянствам. Нават дзеці цяпер крадуць і б'юць людзей, свядомыя сваёй бяскарнасці з увагі на сваё малалецтва: хто ж пасадзіць у *папраўчак* васьмі- ці дзесяцігадовае дзіця...

Зноў вярнуліся дрэнныя зачэпкі: хто не наш, той дрэнны і нічога не варты. Зноў вёска ідзе на вёску, а квартал на квартал.

Калі я была дзеўкай і хадзіла на танцы, такіх боек не было. Аднойчы была ў Старым Ляўкове на Пятра і Паўла на забаве. Музыканты даведаліся, што групка хлопцаў хоча біцца і праз мегафон прыгразілі, што не будуць іграць. Арганізатары супакоілі разгарачаных і ўсе далей гулялі бяспечна.

Таксама і ў Семяноўцы нехта на Пакрову хацеў пашумець. Тады ім прыгразілі, што прывяжуць іх да плота і няхай глядзяць, як другія танцуюць. I таксама ўціхамірыліся.

Здавалася ўжо, што людзі навучыліся розуму: моладзь жа цяпер больш адукаваная...

Паводзіны чалавека залежаць, аднак, ад яго характару. Многія гавораць, што гэта з нуды, а я скажу, што гэта з вялікай дурноты.

Добра ведаем, што людзі аднолькавыя. Кожны хоча жыць, есці, піць; кожны родзіцца і ўмірае.

Ад стагоддзяў здараюцца канфлікты паміж людзьмі па розных прычынах, нават з-за веравызнання, колеру скуры ці светапогляду. Так успыхаюць войны, якія забіраюць жыццё мільёнам людзей, а мільёны калечаць.

Здавалася б, навошта ўсё гэта? Замест зброі прадукавалі б нешта больш патрэбнае людзям, замест ваяваць, рабілі б што патрэбнае грамадству. Усім хапіла б работы і ўсе адчувалі б сябе бяспечна.

Многім здаецца, што праглынуць увесь свет, але нікому яшчэ гэта не ўдалося.

**Аўрора**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LV**

Сённяшні фрагмент прызнанняў Антона Адамовіча адносіцца да паставаў беларускай інтэлігенцыі падчас гітлераўскай акупацыі:

„Не ведаю, ці вам, Алесь, вядома, што ў другой палове трыццатых гадоў канчаліся тэрміны ссылак для тых многіх беларусаў, якія былі арыштаваны і асуджаны на пачатку трыццатых гадоў. Трэба сказаць і тое, што ў першых працэсах даваліся судамі параўнаўча невялікія прысуды. У другой палове трыццатых гадоў, у часе вялікага тэрору савецкія органы пастанавілі выправіць сваю „памылку". Зразумелі, што многія так званыя беларускія нацыяналісты вытрымалі сібірскія лагеры, адбылі сваё тэрміны і павінны вярнуцца на радзіму. Была гэта вялікая небяспека для савецкай сістэмы. Партыйныя органы дайшлі да вываду, што ссыльныя, якія вернуцца да сваіх родных, будуць апавядаць праўду аб страшэнных варунках жыцця ў ссылцы. I вось такога партыя не магла дапусціць. I таму пастанавіла іх нанава асудзіць і выслаць у лагеры або засудзіць на смерць. З гэтае прычыны да новых працэсаў, якія праводзіліся ў Беларусі, прышывалі справы тых асуджаных, якія адбылі свае лагерныя тэрміны. У гэтых новых працэсах іх асуджвалі на новае многагадовае зняволенне або на смерць. З гэтай мэтай ссыльных прывозілі ў Мінск і зноў іх судзілі. Да такой катэгорыі папаў і я. Мяне прывезлі ў Мінск на судовы перагляд маёй „віны". Не было сумненняў, што новы прысуд будзе суравейшы чым першы.

I тут наступіла тое, чаго Сталін ніяк не чакаў ад свайго вернага саюзніка Гітлера. Гітлер напаў у чэрвені 1941 года на Савецкі Саюз, разбіў чырвоную армію і адагнаў яе аж пад Маскву і Ленінград. У такой сітуацыі Беларусь пазбылася тыраніі Сталіна і падпала пад тыранію Гітлера. Усе сталінскія вязні, якія былі на тэрыторыі Беларусі, выйшлі на свабоду. Выйшаў на свабоду таксама і я.

Савецкая прапаганда напорыста і заўзята прадстаўляла такіх як я, як памагатых Гітлера, здраднікаў і прадажнікаў, якія маліліся Гітлеру. Скажу вам, спадар Алесь, што ў гэтым няма праўды. Трэба ведаць, чаму беларуская інтэлігенцыя, якая апынулася пад нямецкай акупацыяй, пачала дзейнічаць у легальных структурах і будаваць беларускую адміністрацыю. Справа ў тым, што ў час нямецкай акупацыі павісла над Беларуссю трайная пагроза, пагроза з боку немцаў, пагроза з боку рускіх і пагроза з боку палякаў. Зразумела, што немцы былі зацікаўлены тым, каб Беларусі даць як найменш аўтаноміі і свабоды. З другога боку рускія рабілі ўсё, каб пралезці ва ўсе структуры адміністрацыйных уладаў, у школьніцтва і паліцыю, каб пад нямецкай акупацыяй у далейшым русіфікаваць Беларусь. Тое ж самае рабілі палякі. Стараліся максімальна апанаваць адміністрацыю, школьніцтва і паліцыю, каб пашыраць польскія ўплывы на Беларусі.

Што ў такой сітуацыі павінны былі рабіць беларусы? Сядзець з заложанымі рукамі і глядзець, як да канца гіне Радзіма? Пагадзіцца, каб палякі рабілі на Беларусі тое, што рабілі пры Пілсудскім, а рускія каб свабодна прадаўжалі тое, што практыкавалі пры Сталіне? Гэта была б поўная згуба для Беларусі. Мы ведалі, што Гітлер такі самы людаед як і Сталін, аднак у існуючай сітуацыі трэба было максімальна браць у беларускія рукі лёс краіны, арганізоўваць беларускае школьніцтва, беларускую медычную службу, беларускую адміністрацыю, беларускую прэсу і нават беларускую паліцыю. I мы на гэта пайшлі. Пайшлі дзеля ратавання радзімы. Мы ведалі, што гэты паратунак мае абмежаваны характар, мы бачылі як немцы зорка сочаць за кожным нашым крокам. Тое, што мы рабілі, часта мела гераічны характар. Вы ведаеце, што забівалі нас нярэдка немцы, забівалі рускія і забівалі палякі. Пакуль што няма дакладных статыстык, якія б паказвалі вялікія трагічныя лікі ахвяраў, якія палі з нямецкіх, рускіх або польскіх рук. Трэба сказаць, што некаторыя польскія эмігранты прызналіся да антыбеларускага тэрору, рускія дагэтуль не прызнаюцца. Але мы верым, што гісторыя падлічыць усё дакладна і пакажа твары злачынцаў незалежна ад таго, да якога народа належаць".

**Алесь Барскі**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**11 жніўня**

1892 г. — нар. Уладыслаў Андэрс, польскі генерал.

1984 г. — „жарт” Рональда Рэйгана, які падчас выпрабавання мікрафона „загадаў” збамбіць СССР; інцыдэнт вызваў рэзкую крытыку ў свеце.

**12 жніўня**

1399 г. — бітва на Ворскле, дзе войскі Вялікага княства Літоўскага пацярпелі паражэнне ад Залатой Арды.

1687 г. — перамога аўстрыйскіх войск над туркамі пад Мохачам падпарадкавала трону Габсбургаў Венгрыю і Трансільванію.

1952 г. — улады ГДР падзялілі краіну на 14 акругаў замест ранейшых пяці ландаў.

1955 г. — памёр Томас Ман, нямецкі пісьменнік.

1970 г. — падпісанне дагавора паміж СССР і ФРГ, у якім гэтыя дзяржавы прызналі граніцу на Одры і Нысе.

**13 жніўня**

1521 г. — апошні кароль ацтэкаў Катэмок здаўся іспанцам пад Тэначтытланам.

1899 г. — нар. Альфрэд Хічкак, англійскі рэжысёр.

1905 г. — амаль 100% нарвежцаў выказалася супраць існуючай ад 1814 года уніі са Швецыяй, што дало пачатак самастойнасці іх краіне.

1927 г. — нар. Фідэль Кастра, кубінскі палітык.

1956 г. — памёр Якуб Колас.

1990 г. — прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў аб'явіў агульную амністыю палітычным падсудным 20—50-х гадоў.

**14 жніўня**

1385 г. — Крэўская унія, дзе Ягайла ўзамен за польскую карону забавязаўся далучыць Вялікае княства Літоўскае да Польшчы.

1461 г. — нар. Аляксандр Ягелончык, польскі кароль.

1502 г. — Хрыстафор Калумб упершыню ступіў на амерыканскі мацярык на мысе Гандурас.

1777 г. — нар. Ханс Крысціян Эрстэд, дацкі фізік, адкрывальнік электрамагнетызму.

1915 г. — здадзена ў карыстанне найдаўжэйшы ў свеце водаправод (410 км) з гор Сьера-Невада ў Лос-Анджэлес.

**15 жніўня**

1534 г. — заснаванне ордэна езуітаў.

1769 г. — нар. Напалеон Банапарт, французскі кесар.

1892 г. — нар. Луі дэ Брой, французскі фізік.

1899 г. — памёр Роберт Бунзен, нямецкі хімік, адкрывальнік спектральнага аналізу.

1914 г. — адкрыццё Панамскага канала.

1969 г. — пачатак фестывалю ў Вудстак, на які прыехала больш за 400 тыс. моладзі.

**16 жніўня**

1977 г. — памёр Элвіс Прэслі, амерыканскі спявак.

**17 жніўня**

1629 г. — нар. Ян III Сабескі, польскі кароль.

1807 г. — пуск на ваду, збудаванага Робертам Фултанам, першага парахода „Клармон”.

1943 г. — амерыканскія і брытанскія войскі занялі Месіну, узяўшы ў палон 135 тысяч немцаў і італьянцаў.

1976 г. — савецкі аўтаматычны зонд *Луннік-24* прызямліўся на Месяцы, узяў пробкі грунта з глыбіні двух метраў і вярнуўся з імі на Зямлю. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Я ўсё яшчэ дрыжу, калі толькі ўспомню той кашмарны сон пра майго сына. Сынку майму дзевяць гадоў і я яго выслала ў лагер. Паехаў ён першы раз і я вельмі непакоюся, як ён там дае сабе рады. Мне ўсё здаецца, што нешта там яму станецца, ён жа там адзін, без мяне, яго маці.

І вось прысніўся мне той страшэнны сон і я зусім страціла спакой. Быццам мы з сынам лезем па нейкім балконе. Невядома, чый гэта балкон — наш ці чыйсьці чужы. Мы з сынам асцярожна ступаем па знешняй частцы балкона, там ёсць маленькі выступ, так што нам хапае яго, каб ставіць ногі. І так мы паволі пасоўваемся наперад, а куды і чаго мы ідзем — не ведаю. Я вельмі баюся, каб сын не зваліўся з вышыні. І раптам, як на злосць, бачу, што ў майго сынка паяўляецца на плячах вялікі мяшок, напоўнены памідорамі (вечарам я якраз глядзела па тэлебачанні фільм, дзе чалавек рабіў сок з памідораў і ў яго на кухні ляжала іх цэлая гара).

Мой сынок трымае на плячах гэты мяшок і яму цяжка ісці. Я бачу, як у пэўны момант гэты мяшок цягне яго ўніз, а мой хлопец перахіляецца і ляціць з высокага паверха ўніз. Я гляджу туды, куды ён паляцеў, і бачу, што ад майго сынка нічога там не засталося. Ляжыць адно кавалак хрыбта з рэбрамі. Мяне агортвае панічны страх. Баюся, Астроне! **Варвара**

Варвара! Не бойся! Гэты сон — вынік твайго хворага ўяўлення. Ты вельмі непакоішся пра свайго сынка, і такія сны табе сняцца, паколькі ў тваёй падсвядомасці загнездзіўся страх, пераказнне, што нешта з ім абавязкова здарыцца. А ты не бойся, там жа ёсць і іншыя дзеці, і выхавацелі. Перастанеш баяцца — і кепскія сны перастануць сніцца. **Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 4. смеласць, 7. месца нараджэння Хрыста, 8. выпукласць на паверхні вадкасці, 9. горад між Волгадай і Архангельскам, 10. стан баксёра пасля цяжкога ўдару, 14. вадаспад з уступамі, 18. суседка Беларусі, 19. каркас, 20. напр. Брыжыт Бардо, 21. мясное блюда.

**Вертыкальна:** 1. тэлефонны сігнал, 2. міфічная істота з галавой чалавека і тулавам ільва, 3. дзяржава на поўдні Афрыкі, 4. сталіца Іарданіі, 5. упрыгожанне з кветак, 6. горад у Калінінградскай вобласці, 11. яд, 12. старажытная дзяржава ў Месапатаміі, 13. спеў у гонар святога, 15. горад на поўдні Турцыі, 16. круглая металічная пасуда, 17. старажытная сярэбраная або залатая манета. **(Ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 25 н-ра:

**Гарызантальна:** Крынкі, дзежка, пранік, жаба, рада, Семіраміда, Рэйн, рыба, размах, цаліна, Сухумі.

**Вертыкальна:** Крлежа, Кіпр, дзік, каляда, анахранізм, басейн, Радары, Рэчыца, Батумі, рана, Ахсу.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: **Казімір Радошка** са Свябодзіц і **Міхал Байко** з Беластока.

**Міні-даведнік:**

**Няндома** — горад на поўначы Расеі.

# Наша пошта

**Szanowni Państwo!**

1 czerwca 1996 r. w Gdańsku rozpoczął działalność (powołany z inicjatywy Związku Ukraińskiej Młodzieży Niezależnej) **Ośrodek Informacji Mniejszości Narodowych**. Z jednej strony Ośrodek ma za zadanie udzielanie wszelkich informacji dotyczących mniejszości narodowych w Polsce wszystkim osobom zainteresowanym tym tematem, z drugiej zaś zmierza do zwiększenia aktywności organizacji mniejszościowych.

Wychodząc naprzeciw potrzebom i oczekiwaniom społeczności mniejszościowych, został powołany OIMN, mający z założenia wypełniać lukę informacyjną zarówno wśród mniejszości jak i całego społeczeństwa.

Ośrodek proponuje:

Udzielanie porad i konsultacji z zakresu sektora pozarządowego, ze szczególnym uwzględnieniem specyfiki organizacji mniejszości narodowych.

Udzielanie porad i konsultacji prawnych dotyczących mniejszości narodowych.

Udział w szkoleniach dla liderów mniejszości narodowych, które dotyczyć będą:

— pisania projektów,

— podstaw prawnych sektora pozarządowego,

— podstaw prowadzenia negocjacji,

— współpracy z samorządem lokalnym,

— kontaktów z mediami.

Udzielanie informacji o możliwościach uzyskania funduszy na projekty realizowane przez organizacje mniejszości narodowych.

Nieodpłatne przesyłanie Biuletynu Informacji Mniejszości Narodowych.

Nieodpłatne udostępnianie wszelkich informacji dotyczących mniejszości narodowych w Banku Danych Ośrodka Informacji Mniejszości Narodowych.

**Igor Hałagida**

**Adres OIMN:**
**80–828 Gdańsk**
**ul. Długi Targ 8/10**
**tel./fax (0-58) 31 58 78**

# ПАРНАСІК

## Лета ў разгары

Лета ў разгары,
Так, як на пажары.
Працы вельмі многа —
Можа ўзяць знямога.
Ды мы не дапусцім.
Лішні *труд* адпусцім.
Будзем працаваць,
Летка праслаўляць.
Сенакос прайшоў,
Вольны час прыйшоў;
Можна адпачыць
І далей так жыць.
Ды мы любім *труд*,
Не чужы нам бруд.
Хочам штосць рабіць
І паклоны біць.
Для сваёй работы
Не страшны турботы.
Цешымся удачай,
Плачам над няўдачай.
Але гаспадарка,
Быццам Ванька-ўстанька.
Можам спадзявацца,
Падаць, падымацца...
Ды, калі Бог у сэрцы,
Можам усё перанесці:
Радасці і гора,
А Хрыстос — апора.
Шмат работы маем
І дакладна знаем:
Не ўцячэ ў прастор;
Пільнуе свой двор.
Хто садзіць трускалкі,
Той збраднее цалкам;
А калі прадаў —
Тады капітал!
Хоць ён і мізэрны...
Ды будзь Богу верны,
Ён багацце дасць,
Каб любоў падняць.
І навокал леткам
Яхантавы кветкі,
Ягады і ружы —
Яны варты дужа.
Ягады даспеюць,
Ветрамі правеюць.
Будзем іх збіраць,
Асцярожна рваць.
А пасля і жніва,
Як даспее ніва.
Будзе і пагода,
Рушыцца работа
І камбайн, касілка...
Шуму дасць малацілка
І зярно пасыплецца.
Сэрца ў нас ажывіцца.
Лета ёсць чароўнае
І нічуць адмоўнае.
Каб яно расло,
Плён нам прынясло.

**Мікалай Панфілюк**

## Еўрапейская унія

У Ланцуце спаткаліся лідэры дзяржаў,
Каб абмеркаваць крыху важных спраў:
Дэмакратыю, культуру, свабоду;
Для Цэнтральнай Еўропы і сваіх
народаў.

Спаміналі, што гісторыя, гэта мноства
болю, ран.
Спакою тады хоча кожны мудры пан.
Хочуць, каб зразумелі багаты і ўбогі,
Што ад дэмакратыі няма лепшай
дарогі.

Адкрыванне межаў стварае нагоду
На ўзаемаразуменне і народаў згоду,
Талерантнасць, давер, праўду,
дабрабыт —
Каб людзі ў Еўропе шчасліва жылі.

**Мар'я Пень**

Ніва

„Niwa”
ul. Zamenhofa 27, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.
Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Ніўка

## Эпіграмы з антыподаў

**Спаборніцтва**

Спадзяваўся, дасце мне веры,
што я выйграю з Руско:
хто больш змарнуе паперы.
Не я, грэшны Сымон...
У перагонках — першы ён!

**Сымон ШАЎЦОЎ**
**Аўстралія**

## З падслуханага

— Машачка! Колькі ж гэта твайму малому?

— Хутка два.

— Гаворыць?

— Усё-ўсё гаворыць. Толькі што „на фік” не пасылае...

*(„Вожык”)*




*Мал. М. СЕЎЛЮКА („Вожык”)*

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве сяброўкі:

— Мой муж быў мне калісь цэлым светам...

— А цяпер не?

— З таго часу я падцягнулася па геаграфіі.

* * *

Цешча дакарае зяця:

— Як можаш пакідаць жонку пры такой рабоце, сам развальваючыся з газетай у фатэлі?

— Мае жонкі падчас працы не трэба пільнаваць.

* * *

— Як гэта разумна, што ты сёння вярнуўся дамоў цвярозы, — хваліць жонка мужа.

— Гэта не з розуму, толькі з нястачы грошай.

* * *

Жанчына заказвае ў дэтэктыўным бюро:

— Сачыце за маім мужам і тою кабетай, з якою ён сустракаецца і ў рапарце напішыце, што яна ў ім бачыць.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Павер, у мяне так сталася:

Тры гады таму я вярнулася з Каліфорніі, дзе цэлы год вучылася ў амерыканскім каледжы. Прыехала дадому з разбітым сэрцам, хаця вельмі цешылася, што нарэшце я ізноў з бацькамі, па якіх я там, у той Амерыцы, вельмі сумавала. Званіла я ім штотыдзень, бо мусіла пачуць голас мамы, таты, брата. Я не ўяўляю сабе такой сітуацыі, што застануся за граніцай назаўсёды, без іх.

Але... закахалася. Закахалася да такой ступені, што, прыехаўшы, сказала бацькам: „Крыс — гэта маё першае, наймацнейшае каханне!” Хлопец быў статны, даволі прыгожы і вучыўся разам са мною. Бацька яго паходзіў з Філіпін, а маці была амерыканкай. У хлопца была цёмная скура, але неграм ён не быў.

У каледжы мы неяк адразу пасябравалі. Увесь час былі разам: і вучыліся, і хадзілі да сяброў ці на дыскатэкі. Неўзабаве я зразумела, што кахаю яго, а зараз жа і ён прызнаўся мне ў каханні. І так мы пачалі хадзіць „усур'ёз”.

Усё там для мяне было новае: і краіна, і вучоба на англійскай мове, і Крыс з маімі пачуццямі да яго. Я жыла, як у сне — экзатычным, нязвыклым, прыемным. Крыс быў часцінкай усяго таго новага, што прынесла мне вучоба ў Каліфорніі. Я кахала яго з кожным днём мацней.

Як я ўжо табе казала, прыехала я дахаты, закончыўшы каледж, з разбітым сэрцам. Не тое, каб мы лічылі, што ўсё між намі скончана разам з маім ад'ездам. Наадварот, мы не ўяўлялі сабе будучыні без супольнага жыцця. Пачаліся ізноў званкі, званіў і ён, і я, ну, і перапісваліся мы таксама. Але было мне без яго цяжка. Першае каханне, яно моцнае. Цэлымі начамі я думала пра яго, пра тое, што ён цяпер робіць. Момантамі нават у думках я мела прэтэнзіі да яго, што можа гуляе цяпер з іншай. А ён па тэлефону пераконваў мяне ў сваім вялікім каханні.

І так мінула тры гады. Я запрасіла Крыса да нас у госці, бо ён сам сказаў, што хацеў бы ўжо ўбачыць мяне. Калі мы раней разважалі пра нашу будучыню, дык ён згаджаўся нават прыехаць сюды і жыць у Польшчы, бо ведаў, што ў Амерыцы я б пастаянна жыць не магла. Ну, няхай паглядзіць, як тут у нас, меркавала. Але сэрца пачынала моцна біць, калі я думала пра яго прыезд.

Мае бацькі прынялі хлопца вельмі міла. Быў у нас ганаровым госцем — усё ж такі чалавек з заграніцы, ды і можа быць членам нашай сям'і. Матэрыяльна нам жывецца някепска — у бацькі прыватная фірма. І бацькі вырашылі паехаць усёй сям'ёю ў адну з цёплых краін, дзе заўсёды ёсць сонца, а пры нагодзе ўзяць з сабою Крыса.

Выбралі мы Туніс, для нас — экзатычную краіну. Там мы адпачывалі, ездзілі на экскурсіі, хадзілі на дыскатэкі, якія арганізаваліся ў нашым гатэлі для моладзі. Усё было цудоўна, адне там я з жахам сцвердзіла адно: што сустрэўшы Крыса пасля трох гадоў, я ўспрымаю яго не як свайго хлопца, а толькі як сябра. Нешта між намі скончылася, а я гатова была выдзерці вочы кожнаму, хто сказаў бы мне раней, што менавіта так будзе.

Цяпер мне стала неяк сумна. І не ад таго, што я адна, бо Крыс далёка, а таму, што я адна, хаця ён пакуль што са мною. Ды і ён стаў нейкі іншы. Я спачатку думала, што і ён пахаладзеў у адносінах да мяне, або мо ў Польшчы яму не падабаецца. Але ж не, сказаў ён нават, што хацеў бы, калі скончыць вучобу, жыць тут. Але мне гэта ўсё ўжо абыякава. Хачу хутчэй скончыць свае навукі і распачаць новае жыццё. Не разумею, што здарылася са мною!..

**Агата**

Агатка! Час робіць свой уплыў на нас. Ты пакахала гэтага хлопца першым чыстым пачуццём, у арэоле новых падзей і сяброў. Калі вы рассталіся, тваё пачуццё да яго яшчэ ўзмацнілася, бо хацелася быць каля яго, а гэта было немагчыма. За гэтыя тры гады ты ўвайшла ў новы нурт тутэйшага студэнцкага жыцця. Вобраз хлопца, які маляваўся ў тваім уяўленні, быў цалкам іншы, чым той, які з'явіўся перад табой праз тры гады. Няважна, што вы — ні ён, ні ты — не пакахалі нікога іншага. Але і ён табе, відаць, у новых варунках не падыходзіў да кандыдата на каханага. Прайшло, разумееш?!!

Ніколі не трэба (на ўсякі выпадак) казаць, што гэта каханне „першае, наймацнейшае і **апошняе**” бо з гэтым пасякаму бывае.

**Сэрцайка**

Сцяпан Абух

## З запісаў нацыяналіста

**21. Япіскап**

Япіскап быў чалавек гвалтоўны. Упадабаў ён у сваім жыцці ўсякі занятак, які, мякка кажучы, не падыходзіў ягонаму прозвішчу: заўзята махаў рукамі, калі нешта тлумачыў, пырскаў слінаю (вочы ягоныя бліскучэлі ў такія моманты агнём неспатоленасці), курыў страшэнна дарагія цыгарэты, піў такі ж алкаголь ды глуміў цнатлівыя дзяўчаты з добрага дому. Вонкава Япіскап насіўся ў стылі наёмнага жаўнера Брытанскай садружнасці народаў, а ўнутрана, як казалі яго крытыканы, адчуваў сябе мусіць страшэнна недаацэненым. Аднаго разу, у час фестывалю „Маладая Зона”, сарваў ён трохпаласаты замбарскі сцяг і ў невыказнай нянавісці парэзаў яго на кавалкі, кажучы пры гэтым, што для яго і яму падобных усякая матэрыяльная праява патрыятызму страціла сэнс. Япіскап жыў у напрузе: для афіцыйнай публікі прыкідваўся ён лунальна набожным чалавекам, а за вачыма афіцыёзу гнуў маты і нясціпла фарсіў — глядзіце які з мяне задавака. Вава Мацько — першы дзяец Зоны, на якога Япіскап і яго каманда вынеслі смяротны прысуд, — заключыў аднойчы, што Япіскап закончыць, мусова, у псіхушцы. Немагчыма жыць, — даказваў Мацько, — у такой раздвоенасці. Раней ці пазней адаб'ецца яна на ўраўнаважанасці чалавека. Япіскапаву раздвоенасць павялічвала яшчэ і тая акалічнасць, што ён — г.зн. Япіскап — са сваёй нарачонай гаварыў па-любагорску.

Япіскап перажыў сапраўдны ўнутраны канфлікт, калі прыступаючы ў характары спевака да трэш-флеш-сельсофт гурту „Гара-Гара”, мусіў палагодзіць набожную сціпласць з сатанінска-экспрэсіўным выяўленствам сучаснай музыкі. Япіскапаў флірт (сталасць не была яго рысай) з рок-вакалістыкай быў ацэнены па-рознаму. Аматары і знаўцы эстрады ўгледжвалі, з аднаго боку, некаторае ўзбагачэнне сучаснага музычнага жанру, але з другога — яшчэ большую нязладжанасць паміж пастаўленым на царкоўнае пенне голасам Япіскапа і жорсткімі паходамі электрычнай гітары. Як бы там ні было, але галоснасць, якой Япіскап скрытна прагнуў, усё да яго набліжалася.

Япіскап, Сімпсан Бульдозер і Альфік Майнкампф належалі да дзяяцкай эліты Таварыства „Давайце Падзейнічаем”. Свае нарады праводзілі за скрынкай замбарарэзу.

— Баюся, што Мацько нам найбольш урэдны, — пачаў Япіскап.

— Насраў на твайго Мацько, — уключыўся Бульдозер, — ён абарванец заўсёды быў, акурат з вуліцы збіраў і ў расхрыстанай кашулі хадзіў. Знайшоў мне лідэра!

Сімпсан Бульдозер, кажучы гэта, дастаў свежы буталь са скрынкі, а з халявы мачэту, свіснуў гэтай апошняй і гладка зрэзаў рыльца. Затым наліў сабе і сябрам.

— Нам трэба дзейнасці. За яе мы вып'ем!

— Што ў канкрэтнасці ты маеш на ўвеце? — ціха запытаў Альфік Майнкампф.

— Да мяне гаворыш!? — Бульдозер шкляным зрокам павёў па кампаніі.

— Не бяры гэтага так асабіста, Сімпс, — спрабаваў супакоіць Япіскап. — Дапярдолім „Гоням” і па справе, веш.

— Ідэя недурная, — Бульдозер зрабіў выгляд, быццам уваходзіць у самую блізкую лучнасць са сваім інтэлектам. — У „Гонях” адны канфлікты ўзнікаюць, а значыць: канфліктовыя яны там. Я думаю, што мы зробім добрую паслугу грамадству.

— І запішам светлую старонку... — Япіскап выдыхнуў з жалудка спіртны перагар, — у нашай дзейнасці. Але Мацькова галава таксама паляцець мусіць. І Лацыса Даўжэні, і Біча, і Абуха...

— Паволі-паволі хлопцы, — Рубенс Валілка II спрабаваў палагодзіць балаган, — хай гэты апошні перш напіша, чаму перайшоў на службу брытанскай каралеве, уступаючы ў „МІ-6”, а тады і яго можаце даканаць.

Сабраныя, пачуўшы палітычную думку, не сталі яе аспрэчваць. Паківалі толькі галовамі і ўзяліся дапіваць запас замбарскага настою. А быў гэта, у сваёй фінальнасці, страшны занятак. Дабратворны сон, хоць і зышоў у канцы на натхнёных і моцна стомленых дзейнікаў, але так і не патушыў ён агню іх пачуццяў...

Яны супрацьстаялі ўсім сваім ворагам у Зоне. Камандаваў Япіскап, а харызма, якая яго акружала, выявілася нават у форме арэолу над галавою. Ён узняўся метраў тры па-над зямлёю і з гэтай боскай перспектывы заклікаў у вырашальны бой з усім злом у Зоне. У адной яго руцэ тырчэла гетманская булава, а ў другой — здавалася, што трымае адначасна мікрафон і фотаапарат, і гусінае пяро, і малярскі квач, і засушаныя зёлкі, і шмат-шмат яшчэ якой смертаноснай зброі. І калі ўжо-ўжо страшная навальніца ездакоў мела рушыць на крываваю расправу... сталася рэч дзіўная. Япіскап — ці то раздумаўся, ці то прыйшла яму ў галаву новая ідэя, — зрабіў пранізлівае ўюммммпссс і, бы мультыплікацыйны герой, схэзнуў у неабсяжнае далеч зонаўскіх прасцягаў. Нейкую хвілю пастаяў яшчэ ў паветры мультыплікацыйны дымок...